

**“АБЯЦАЮЦЬ НАМ НОВЫ РАСКОШНЫ ДОМ, АЛЕ ТУТ НАМ ЖЫЦЬ І КАНАЦЬ”.** *с.3*



З любоўю да ўлоння

№3 (12)
Чэрвень 1998

# БЕЛАВЕЖСКАЯ ПУШЧА

Беларуская прыродалюбная асветна-публіцыстычная газета

Двухмесячнік



Слова рэдактара

## Куды вядуць зямныя дарогі

Аднойчы я ўбачыў шчаслівы сон. Белапенна, густа цвілі прысады. Дарога, па якой я ішоў, была бясконцаю і не стамляла. Сустракаліся людзі, знаёмыя і незнаёмыя. І шмат дзяцей. У хлопчыка я запытаўся: “Ты хто?”. “Беларус”. “А куды вядзе гэтая вечная дарога?” “У рай”, - адказаў хлопчык.

Дарога заўсёды знак. Дбаласці гаспадароў, іхняй аселай чыннасці ды годнага гаспадарства. Іхняй любові – да роднай зямлі, бацькаўшчыны, сваіх продкаў, нават нябёсаў, дзе жыве іх гасподзь.

Маючы за плячыма чатыры з нечым дзесяткі, прыгадваю быццам у сне, сваю першую дарогу, што вяла на шырокі гасцінец. Прыгожую і фасоністую. Шляхетную.

За несавецкім часам яе змайстравалі мясцовыя людзі. Аблагодзілі яблынямі, гэтак жа паабапал пракапалі раўкі. Каб не шкодзіла веснавая вада, у нізінках праклалі трубы.

Дарога цвіла і хораша пахла. Яе памятаюць цэлыя пакаленні навакольных жыхароў.

Сёння дарогу не пазнаеш. І гэта таксама знак. Даўно зааранены раўкі. Ад пракладзеных сцёкавых трубаў не засталося і следу. Хіба што на іх месцах прыжыліся смеццезвалкі (памятаю, дарэчы, як калісьці па гэтай дарозе ездзіў анучнік)... Частку дарогі – зарэчную, што вяла пад лес і злучала дзесяткі хутароў і вёсак, – зліквідавалі як “клас”. Надта непраезнаю стала яна пад цяжарам машыннай тэхнікі. Пакарчавалі яблыні, зааралі бабульку-дарогу, а побач праклалі новую. Не дарогу, а след, аднадзёнку. Тут няма прысадаў і ўлетку не цвітуць зарніцы, не ляціць сюды, на чабаровыя курціны, пчала. І падарожны не знаходзіць асалоднай хвіліны пасядзець пад яблыняй.

Вось думаю: па якой, чыёй волі нацыя збочвае з уладкаванай, прыгожай дарогі на брыдкую, п'яную, занядбаную? І куды ў рэшце рэшт яна прывядзе?..



Валерый Дранчук



*Пра што падумае кожны з нас, гледзячы на гэты здымак? Ззівіцца? Штосьці прыемнае ўспомніць – знаёмыя з дзяцінства мясціны, мокрыя лугавінкі, рыбалку з будай? Альбо асушаныя балоты, знішчаныя рэчкі, лясныя сцяжынкі, зарослыя крапівой? Угледзімся ў сябе...*

### Сажалка “Ціхі брод”

*Газета выдаецца па ініцыятыве інфармацыйнага зялёнага агенцтва “Неруш-прэс”,*
*падпісны індэкс 63267*
*Заснавальнік і рэдактар*
*Валерый Дранчук*
*Для кантактаў:*
*220088 Мінск, вул. Іванаўская, 38, 16*
*Тэл. (017) 236-50-76, факс 220-23-53*
*The founder and Editor-in-chief*
*Valery Dranchuk*
*Contact: Ivanauskaya St. 38-16*
*220088 Minsk Belarus*
*fax (375 172) 20-23-53*

*Параўнайце яе з чалавечым тварам: можа, гэта твар вашай маці, вашай сястры ці каханай. Твар, на які вы забыліся. Твар з партрэта ці з вашых мараў. Не плюйце ў яго, не закідвайце каменнямі і смеццем. Не дайце яму зарасці травою. В.Д.*

ПРАЧЫТАЎ – ПЕРАДАЙ ДРУГОМУ «Б-П»

КОЛА пішыце тэлефануйце пытайцеся КОЛА пішыце тэлефануйце пытайцеся КОЛА

200
гадоў
ад нараджэння

**Анталогія** ў перакладзе з грэцкае мовы значыць букет кветак. Старажытныя грэкі так называлі зборнікі выбраных твораў паэзіі

# Кветніца з ружаў лета



Мастак Г. Грак

**Янка Лучына**
*(1851-1897)*

*З паэмы "Гануся"*

Заходзіць сонца за горы,
Пакла́ліcь цені па лесе,
Вяршына старой аборы
Пазалацілась на стрэсе.

Вось вецер цёплы ад рэчкі
Нясе пах з лесу жывіцы,
І польных кветкаў, і грэчкі
І мурмутанне крыніцы.

Як ціха! Там, у патока,
Кулік часамі засвішча,
Толькі здалёка, здалёка
Шуміць з карчомкі ігрышча.
. . . . . . . . . . . . . . . . .

**Юсцінас Марцінкявічус**
Летува

*Ліпа*

Ліпа, мяккае дрэва, –
гудзенне святочнае пчол,
хаціна, поўная птушак.

Развейвалася па Літве,
я бачыў, тваё насенне:
лыжкі ліповыя на стале,
у каморы ліповыя дзежкі.

ночвах ліповых
румзае немаўля,
ды, слодач тваю адчуўшы.
Зацмокае ўцешна.

Некалі ўбачу:
мужчына,
схіліўшыся над табой,
габлюе, чэша, разьбярыць...
— Раблю, — неахвотна скажа, —
рэч для душы, не для цела.

О дрэва,
поўнае ласкі і чысціні,
столькі вякоў
ты са мною.

**Славамір Адамовіч**

* * *

Як я люблю, зямля, тваю аздобу,
што прарастае ў травах і лясах,
дубоў малых упартую худобу,
Пад бокам шышку ў сініх верасах.

На курганах і купінах брушніцы,
багульніку суседства і чмялёў,
ружовы скрыпень, жамяру кастрыцы,
асеньні дым і вечны сум палёў.

Люблю шукаць гармонію ў лістоце
асіны дрогкай, у калючках ёлкі,
сасны крывой, што вырасла ў балоце,
люблю кустоў зялёныя суполкі...

Бо, як сказаў паэт, навошта колас,
калі не ў модзе сіні васілёк.
Я за цябе, зямля, уздымаю голас,
і для цябе я свой цягну аброк.

---

*Пераклады замежных аўтараў: Алесь Разанаў, Рыгор Барадулін, Валерый Дранчук, Антон Бялевіч*

**Іван Драч**
Украіна

*Грыбная фантазія*

Грыбамі так вее з лесу.
І верасам пахнуць світанкі.
Пойдзем у лес, мой сыне,
Збіраць з-пад кансерваў бляшанкі.

Хадзем па сунічных палянках
Збіраць паржавелую тару –
Знойдзецца ў ціхім лесе
Да д'ябла такога тавару.

Паабіваем росы
Ды абцярушым узмежкі
Там, дзе ад сыраежкі
Рожкі ды ножкі ля сцежкі.

І толькі пустыя пляшкі –
Пабітыя ўсе на друзкі –
Хаваюцца пад мухаморныя
Мадэрністыя картузікі.

Пойдзем у лес, мой сыне,
Збіраць дзіравае смецце
Між драцянога пакручанага,
Паміж металічнага вецця.

Грузі гэта ўсё недарэчча,
Шпурляй яго ў горла яме.
Павініся перад чмялямі,
Што сноўдаюць тут раямі...
. . . . . . . . . . . . . . . . .

**Аяр Вацыецiс**
Латвія

*Пейзаж*

І гэта таксама пейзаж:
зямля,
нябёсы
і пасярэдзіне тарахціць бульдозер.

Спіхвае з палатна
рэшткі бярэзіны –
пень-успамін.

Будзе роўнае поле,
пшаніца, ячмень –
во, наямося!

Глядзіш, і бульдозер
сыдзе далоў.

Застанецца:
зямля,
нябёсы
і я, самотны,
крычу аб ратунку.

**Жорж Роз**
Францыя

* * *

Жыццё - гэта дрэва:
стаю ля паднО́жжа,
чакаю спелых пладоў.

Удзень на ім зелянее лісце.
чорнае голле звісае
ўначы.

Ні звера – ні птушкі:
у кожнага сваё дрэва –
усе мы ў лесе.

## SUMMARY

***This poetic collection entitled Roses in a Summer Bouquet contains verse by authors from different countries. Included is Adam Mickiewicz, the great Polish poet who exalted the Belarusian land, and whose 200th anniversary will be celebrated soon.***

**Валерый Дранчук**

* * *

Воблакі-лебедзі,
ляціце!
Тым і шчаслівы,
што сам я не маю
ніякае ўлады
над вамі.

Ваш водбліск
на даху хаціны маёй,
на кветках-пялёстках
старэючых яблынь.
Цень ваш
ружовай вавёркаю
скача па сцежках
маленства майго.

Воблакі-лебедзі,
нават калі
заплюшчу вочы,
мой зрок
напаўняецца
морам святла
і спакою.

Калі ж абаймаю
далонямі твар,
вы раздымаецe
ўсе даляглядыі,
робіце відушчымі
мае пальцы.

Воблакі-лебедзі,
ляціце!
Тым і шчаслівы,
што сам я не маю
ніякае ўлады
над вамі.



**Анатоль Вярцінскі**

*Жаданні*
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Разуцца б і пайсці сцяжынай –
то травяністай, лугавой,
то гладка ўбітай, палявой –
нагамі ўбітай, не машынай.

**Іван Івашка**

* * *

Увесь я пакрыўджан, увесь я патрачан,
Увесь я абкрадзены ў полі і лесе:
На тыдні русальным русалку не бачу,
Не чую ў піліпаўку воўчае песні.

Ні разу на год – на самое Купалле
Цвісці наша папараць-кветка не стала,
І дзіўныя скарбы, што ў пушчах ляжалі,
Чужая нячыстая сіла забрала.

Заўсёды ў душы маёй будзе надзея,
Заўсёды ў душы маёй будзе пяшчота...
А край мой пусцее, а край мой бяднее
Па волі якога вандала ці гота?

**Вялікі паэт беларускага краю Адам Міцкевіч**
**1798 - 1998**

*Свіцязь*
*(фрагмент балады)*

*Калі навагрудскія ўбачыш прасторы,*
*Ракітнік разгалістыя, нізкі,*
*Каня супыні ля Плужынскага бору,*
*Каб глянуць на возера зблізку.*

*Гушчар лесу пахне чаборам і мёдам,*
*Жывіцы настоем смалістым.*
*Там возера Свіцязь, як шыбіна лёду,*
*Ляжыць паміж дрэваў цяністых.*

*Калі пад'язджаеш начною парою*
*І станеш да возера тварам, —*
*Мігцяць зоркі ў небе, мігцяць пад табою,*
*Мігціць там і месяцаў пара.*



**"Ёсць у мяне зямля..."**

*Навагрудскія мроі. Лета, 1998.*

*Фота: Аляксандр Гутоўскі*

*Не знаеш, — з-пад ног, можа, гэта шкляная*
*Ідзе аж да неба дарога,*
*Ці неба шкляное скляпенне схіляе*
*Табе аж пад самыя ногі!*

*І той, другі, бераг убачыць не ў сілах –*
*З вышынямі возера зліта.*
*Нібыта вісіш ты на птахавых крылах*
*У нейкім бяздонні блакіту!*

* * *
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
*Ёсць у мяне зямля, край светлых мрояў,*
*Мілейшага – мне не знайсці другога.*
*Мне ўсе радня там – болей, чым крывёю,*
*Там сэрцу гэтак многа дарагога!*

*Туды штоміг – хай праца ці забавы –*
*Уцякаю я. Сяджу там пад дубамі,*
*Як некалі, кладуся ў звонь, у травы,*
*Ганяюся ізноў за матылямі.*

# ПАТРЫЁТЫКА

PATRIOTICA



* * *

Абяцаюць нам новы раскошны дом,
Але тут нам жыць і канаць,
Тут пад кожным навекі здабытым бугром
Нашы продкі забітыя спяць.

Яны аддалі нам меч і касу,
Слова з вуснаў, цяпер камык...
І нам немагчыма пайсці адсюль
І пакінуць ся смерцю іх.

## Ул. Караткевіч: “О, любоў мая, Беларусь!”

***...Я аб‘ездзіў на Беларусі амаль усё. Няшмат засталося нават глухіх куткоў, дзе я не пабываў бы. Таму я насмельваюся сказаць, што ведаю сваю краіну і яе людзей.***

**...Т**ам, дзе няма ніў, — суцэльная краіна паплаваў і балот. Дзе няма іх — царства лясоў. І маладых і старых, нечапаных, так званых пушчаў. Бярэзінская пушча, Лепячанская, Гродзенская, Налібоцкая на поўнач ад Навагрaдка, палескія пушчы, Белавежская, якая найбольш уражае чалавека, і многія іншыя. Трэць тэрыторы Беларусі – лясы. 32 працэнты. На жаль, іх высякаюць больш нормы. Не толькі пасля вайны, калі трэба было аднаўляць вёскі і гарады, але і зараз. Нягледзячы на ўсе старанні, не аднолькава, напрыклад, лясістасць на Міншчыне (35 працэнтаў) і Гомельшчыне (38 працэнтаў). Даставалася гэтым лясам.

**М**абыць, галоўныя адрозненні ў псіхіцы беларуса і жыхароў мясцін, дзе мала лясоў, склаліся пад уплывам навакольнага пейзажу.

Лес выхаваў характар беларуса, наш чалавек і лес – родныя, і таму беларус любіць яго. Любіць паўночныя сасняki з імхом, што расшыты караламі брусніц і чарніц, што ліловеюць верасам, у якім сядзяць сімпатычныя таўстуны – карычнева-чырвоныя і карычнева- чорныя баравікі. Любіць змрочныя яловыя лясы з цэлымі барадамі сівога імху на ствалах і з катлавінкамі, напоўненымі празрыстай, але на выгляд чорнай і бліскучай, як лак, вадою. Любіць сонечны россып папараці і зарасці ляшчыны, і больш паўдзённыя лясы, дзе трапляюцца ўжо дубы, грабы, ліпы. І, вядома ж, шыракалістоўныя лясы поўдня з брызглінай, бружмелем, грабам, цісам, рабінай, калінай і магутным разнатраўем ля ступ лясных волатаў.

Нават драбналессе з бялюткімі бярозамі і асінкамі, нават змрочныя і балотныя чорнаальховыя лясы дарагія яму. Лес корміць, лес грэе і дровамі, і сценамі хат, і проста так (“уехаў у лес, бы ў кажух улез”), лес бароніць у выпадку небяспекі, нашэсця, вайны.

**Т**ыповага беларуса я досыць лёгка адрозню сярод іншых, хаця б ён яшчэ не сказаў ніводнага слова (калі скажа, тады ўжо, нават калі ён гаворыць на іншай мове і без акцэнта, яго лёгка пазнаць па асаблівай будове сказа, па тым, што, колькі паветра набрана ў лёгкія, столькі і аддадзена, шчодра, да апошняга, нават з лішнімі словамі, каб мелодыя сказа была завершана. Ён не скажа: “Чым гэта скончыцца?”, а скажа: “Дык чым, мо ўжо вы мне скажаце, скончыцца гэта, — а, мо скажаце вы?”. Рысы аблічча мяккія, склад здаецца, на першы позірк, крыху далікатным, але гэтая далікатнасць падманвае. Рахманасць беларуса таксама да пары да часу. Пяройдзеш мяжу — і тваім ворагам будзе страшны чалавек. Страшны асабліва тады, калі гнеў яго спакойны і разлічаны. Праявы знешняй сілы замяняе тут выносліваць, жылаватасць, цягавітасць. Там, дзе другі можа апусціць рукі, беларус будзе цягнуць.



*рукапіс паэта з кнігі “Быў. Ёсць. Буду”

*мемарыяльная ваза-амфара з Пагоняй. Нясвіж. 1996. Фота: Віталь Прошча.

**Ч**асам, у злыя гадзіны, я нават не ведаю, ці люблю я беларусаў, да якіх маю ґонар належаць. За бязмежную цярпімасць да таго, да чаго не трэба, за мяккасць, што мяжуе з рэптыльнасцю (бляваць хочацца ад нашай мяккасці і дабрыні), за тое, што яшчэ занадта сумленныя і “верныя Янукі”. Але нават у тыя хвіліны я разумею, з пагардай да самога сябе (бо яны — гэта я), што адна справа не любіць чалавека і зусім іншая – не ратаваць яго, калі ён топіцца. Я стану ратаваць. Нават цаною гэтай паношанай шкуры і спрацаваных мазгоў, якія падсохнулі ўжо і тарахкаюць. І хаця на таўшчыню воласа, наколькі хопіць маёй сілы, я прыбліжу да іх паратунак. Уратую іх.

**Я** прачнуўся ад нейкай трывогі і зразумеў: *трэба на Беларусь.* Сёння там зацвітаюць вішні і жывыя агароджы глогу ружовай сцяною ідуць паўз цябе.

Сёння там пеўні гукаюць вясну і, калі выходзіш у сад, блакітныя незабудкі ківаюць табе галавой.

Там, мусіць, вось-вось зацвіце ў кветніках “разбітае сэрца”, простая кветка, якой я нідзе больш не бачыў, акрамя як на маёй зямлі.

“Разбітае сэрца”, паўкруг сцябла з нізкаю маленькіх ружовых сэрцаек, на кожным з якіх вісіць унізе белая кропля.

Пад кронамі дрэў, дзе мокры цень, цвіце яно і цягне, цягне да сябе й маё сэрца, у якім жыве любоў і боль.

Я нідзе больш не сустракаў цябе, маленькая кветка, і таму для мяне ты такі ж сімвал бацькаўшчыны, зямлі майго кахання і труны маіх дзядоў, як бусел, як зубр, як сінія вейкі пралескі-любкі – першай кветкі нашай вясны (тут першая кветка белая, быццам ніяк не можа забыць пра зіму).

Я цягнуся да цябе, простая расліна нашых кветнікаў, жывая мая душа, сэрца маё.

І калі ціхім летнім світанкам з сэрцаек тваіх падаюць сцюдзёныя кроплі расы – я з сваёй далечыні адчуваю гэта так, як быццам яны падаюць з майго сэрца: такую ўразлівасць дае кожнаму сэрцу чалавечаму імкненне да лепшай, да любай, да самай прыгожай сваёй зямлі.

*О любоў мая, Беларусь!*
*Над туманным начным стаўком*
*Пралятае самотная гусь,*
*Разразаючы люстра крылом.*
.............................................
*Разразаючы неба крылом.*

*Фрагменты спадчыны: “Вершы ў прозе”, “Зямля пад белымі крыламі”, “Каласы пад сярпом тваім”.*

SUMMARY

***P**ublished here are some patriotic writings by Vladimir Korotkevich, a poet, writer and playwright whose works teach Belarusians to be worthy of their* ancestors

# Незахаваная Тураўшчына

*Тэма захавання прыроднай спадчыны ў Беларусі апошнім часам прыкметна абвастрылася на старонках газетных, пераважна незалежных выданняў. Артыкул "Незахаваная Тураўшчына" ёсць працягам гаворкі на гэтую тэму ў нашай газеце (гл. N3, 1997 - "Падзенне Белавежскай пушчы; N1, 1998 - "Багавейлівасць перад жыццём"; N2, 1998 - "Лесанарыхтоўчыя ды лесапаляўнічыя тэндэнцыі нахабна і цынічна завалодваюць дзейнасцю на асабліва ахоўных тэрыторыях" і інш.).*



*помнік Кірылу Тураўскаму абавязвае ўсіх тураўчан аб'яднаць волю і намаганні, каб пакінуць нашчадкам зямлю не горшай, чым прынялі яе ад сваіх продкаў.

Замчышча, 1993, 11 траўня.

Фота аўтара.

**Міхал Козел,**
*незалежны экалагіст (Тураў)*

Сярод мноства шырока абвешчаных пражэктаў перабудоўнага часу найбольш дарагі для мяне адзін, які перад усімі варты таго, каб і сёння пра яго думаць і гаварыць. Маю на ўвазе артыкул пісьменніка Віктара Казько, гісторыка Леаніда Побаля і іншых "Захаваць Тураўшчыну", што быў змешчаны ў чэрвеньскім нумары "Роднай прыроды" (1991г.), а таксама ў іншых выданнях. Артыкул – напамін пра тую ролю, якую мела Тураўшчына ў далёкай мінуўшчыне і якую павінна была б мець сёння. Увогуле, пра палескі рэгіён і Тураўшчыну ў прыватнасці напісана і сказана нямала. Можна і паўтарыцца, што Палессе – найадметная скарбніца Беларусі.

Дзеля яе захавання аўтары артыкула прапанавалі стварыць Нацыянальны парк. Ідэя не была адкрыццём. Яшчэ ў 1980 годзе пісьменнік Уладзімір Караткевіч звярнуў увагу на багацце тураўскае зямлі ў сваім эсэ "Сцюдзёная вясна, або 1000 год і сем дзён". І хоць не мае значэння "хто першы", крыўдна, што добрыя намеры дагэтуль не атрымалі практычнага ўвасаблення.

Сярод жыхароў Тураўшчыны ёсць меркаванне, што ўвага да гэтага чароўнага кутка тлумачыцца ні чым іншым, як папулізмам. Узгадваючы артыкул 1991 года, тураўцы ўжо не спадзяюцца на адраджэнне горада. Здаецца, сёння на Тураў забыліся ўсе, нават самі яго жыхары. Яшчэ гадоў 10-15 таму самабытная цішыня гэтых мясцінаў неяк хораша ўжывалася з грамадскай актыўнасцю. Людзі з імпэтам браліся за агульную справу.

Уладзімір Караткевіч любіў Тураўшчыну і неадночы тут быў. Варта нагадаць, з якой цеплынёй ён піша: "...*І вось вечар, і сядае, пакідаючы на вадзе залатую стужку, сонца. Можна ісці насустрач яму з гарадзішча па вадзе Струмені, Прыпяцкай пратокай (а мноства стагоддзяў назад, відаць, не пратока, а сама Прыпяць плыла пад валамі гарадзішча), пасля паплавамі, пасля плынямі нядальняй Прыпяці і зноў паплавамі і дзюнамі. Гэтыя дрымотныя валы, тысячакратна ўтаптаныя і ўбітыя нагамі ворага, і гэтая ледзь не самая плодная на Беларусі дзірвановая, перагнойна-карбанатная глеба 1000 разоў узараная ралам аратая". Колькі душэўнае музыкі ў гэтых радках, колькі імкнення спазнаць філасофію жыцця гэтай зямлі...*

Пра Караткевіча забыліся ў Тураве. Бадай, нічога не засталося ў краязнаўчым музеі, што нагадвала б пра творчыя падарожжы сюды выдатнага пісьменніка. Не дайшлі рукі (або галовы) хоць бы вуліцу назваць у гонар сапраўднага грамадзяніна беларускай зямлі, які любіў гэтую зямлю і гэты народ. Дарэчы, апошняе творчае падарожжа Караткевіча было менавіта па Прыпяці і перарвалася яно з-за хваробы пісьменніка тут, у Тураве.

Здаецца, мы забыліся не толькі на імя Уладзіміра Караткевіча. Мы забыліся на сябе.

І сёння, яшчэ цьмяна ўсведамляючы, пакутліва "ўспамінаем".

Пасля ўрачыстага адкрыцця помніка Кірылу Тураўскаму ў 1993 годзе засталася традыцыя ладзіць святы народнага і царкоўнага кшталту. Яны штогод адбываюцца на Замчышчы, дзе пасля прамоваў "адказных асоб" жыхары і шматлікія госці старажытнага месца пад гукі народных мелодый маюць магчымасць затаварыцца гарэлкай і сякой-такой закускай ды прадоўжыць "гулянні". Натуральна, у сталіцу былога княства падцягваюцца сілы правапарадку, якім, на жаль, хапае работы. Відаць, культура, якая доўгімі дзесяцігоддзямі падмянялася ідэалогіяй, вернецца сюды не хутка. Так думаю не адзін я, такі ж погляд на праблему выказваюць многія, з кім давялося пра гэта шчыра пагутарыць.

"А што тут захоўваць?" — часам кідаюць і такое пытанне заезныя госці. Іх зразумець можна. Калі агледзецца навокал, з часоў даўніны Тураў, бадай, не зведаў аніякага культурнага прагрэсу, наадварот, дайшоў да зусім незайздроснага становішча. Вузкія брудныя вулачкі, шчыльная, амаль некантраляваная сядзібная забудова – словам, правінцыйнае жыццё ў мностве праяў і сэнсаў. Акрамя Замчышча, мала што нагадвае былую веліч шматвяковага горада. "*... Валы, палац, дамы знаці і шматлікія цэрквы – нічога з гэтага не засталося. Па беднасці летапісаў і хронік асаблівую важнасць... набывае археалогія. Гісторыя Турава і Тураўскай зямлі і суседніх земляў спіць пад зямлёй. Ды там ёй, пачасту, спакою не даюць,* " – піша Ул. Караткевіч, падводзячы нас да галоўнай думкі. Засталася зямля. Толькі зямля, багатая на жыццё, як маці. Зямля, на якой жывуць людзі, якая складае частку нашай агульнай Радзімы. А гэта зусім нямала. Гэтую зямлю з яе людзьмі, археалагічнымі каштоўнасцямі, яе ўрадлівасцю, яе жыццёвай сілай мы павінны ўберагчы ад тых, хто хоча размяняць яе на часовыя выгады.

Увогуле, глебы Турава і ваколіцаў, як і ўся зона, што азначана аўтарамі вядомага артыкула як тэрыторыя Нацыянальнага парку, забруджаныя ў той ці іншай ступені рознай дрэнню (адыходы, радыенукліды). Як ні крыўдна, варта глянуць праўдзе ў вочы і сказаць, што гаспадаркі, прадпрыемствы і ўстановы-землекарыстальнікі (асабліва буйныя) ставяцца да зямлі абыякава, часам гэтая абыякавасць мае проста жорсткі характар. Варта пабываць ва ўрочышчы Казаргаць, што ўсяго за тра кіламетры ад Турава. Мясцовы калгас размяшчае там два буйныя аб'екты (птушкаферму і комплекс буйной рагатай жывёлы). Што за межамі гэтых аб'ектаў – хай бог крые! Прадпрыемствы "па вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі" мяжуюць з жудаснай звалкай. Між тым, гэтае ўрочышча было сведкам апошніх хвілін жыцця фашысцкіх вязняў у гады Вялікай Айчыннай вайны, яшчэ раней – прыгожай мясцінай. А цяпер?

Не толькі глеба гіне ад такога гаспадарання. Знішчаюцца ды забруджваюцца малыя натуральныя вадатокі. Ад розных гідратэхнічных і земляробных работ карысць невядомая. У самім жа Тураве змяншаецца колькасць вулічных і садова-паркавых пасадак, абмялела рака Прыпяць, ды і вада, зразумела, не зрабілася ў ёй святлейшая.

*"У Тураве, калі гаварыць пра вадаправод, — дужа брыдкая вада. Нейкая ржавая. З вялікім асадкам"* – пісаў у 1980 годзе Ул. Караткевіч. Становішча змянілася, але не ў лепшы бок. "Няма сродкаў на рэканструкцыю" , -- адказваюць мясцовыя ўлады. "Няма і наўрад ці ўжо будзе

заканчэнне на с.5



* *гэтыя дубы яшчэ стаяць. Але час такі, што нават пад аховай закона яны сёння ці заўтра могуць скончыць свой век (малюнак Наталлі Доўбан, 10 гадоў; в.Пэрароў, Жыткавіцкі раён).*



* *дзікія смеццезвалкі, запусценне — з'ява цяпер нярэдкая, куды ні ступі. Не вылучаюцца з правіла і ваколіцы Турава.*

*Урочышча "Казаргаць.*

SUMMARY

***The socio-economic development of the Polessye town of Turov (once of European fame) is now accompanied by environmental problems and neglect.***

# Дажджавы земляны чарвяк:

## чым больш у глебе, тым яна лепшая

Мы іх толькі і бачым, калі заспелі знянацку, у самы небяспечны ды часам трагічны момант іхняга існавання. Дождж заліў норкі — іх дом і схоў — і яны мусілі падняцца наверх. А вось ён, наш добры знаёмец, у нас пад рыдлёўкай. Адкрыты святлу, паранены. Калі не пашанцуе, будзе скляваны або затаптаны.

Хіба ж няпраўда: сярод шматлікіх цудаў прыроды, на якія мы калі-небудзь любаваліся, падбіраючы словы захаплення, дажджавому чырвонаму земляному чарвяку наўрад ці заставалася месца. Дзіву даваліся хіба што тады, калі ён, не перабольшваючы, быў таўшчынёю з палец – рэдкі экземпляр.

Між тым, ёсць усе падставы шанаваць і ахоўваць дажджавога чарвяка ды памятаць добрую простую выснову: малапрыкметную істоту прырода часам надзяляе каласальнымі здольнасцямі і надзвычайнай значнасцю. Гэта датычыцць і нашага знаёмца.

Там, дзе дажджавога чарвяка не знішчылі, ён як быў, так і застаецца вялікім стваральнікам і абагачальнікам глебы, архітэктарам урадлівых гектараў.

Мы часта не ведаем і не здагадваемся, што гэта за праца. Тымчасам агратэхніка дажджавога чарвяка вартая, каб ведаць яе і браць пад увагу, прынамсі, пакуль хапацца за хімікаты або руліць цяжкай тэхнікай на палі ды пашы (хімія атручвае ўсё жывое, а колы ўбіваюць паверхню зямлі).

Сялібуючы пераважна ў глебе, чарвякі рассоўваюць сваім целам камячкі зямлі, заглынаюць, раздрабняюць і абагачаюць глебу рознымі карыснымі рэчывамі.

Перапраўляючы ў страўніку шмат чаго — часцінкі глебы, апалае лісце, сухую траву ў лесе ды арганічныя ўгнаенні ў полі, чарвякі паляпшаюць аддачу зямлі ў 5-6 разоў.

Сёння шмат дзе на планеце зразумелі: каб мець урадлівыя гектары, трэба перш-наперш стварыць спрыяльныя ўмовы для жыцця і дзейнасці дажджавога чарвяка.

**Анонс.** *Не ўсім вядома, што дажджавога чарвяка можна з поспехам разводзіць ў сваёй гаспадарцы. Пра гэта чытайце ў наступным нумары.*





** і магутны пушчанскі дуб, і жук-алень, якіх вы бачыце на здымках,-- роўныя на ўлонках маці-прыроды.*

*Фота: Віталь Прошча ("Неруш-прэс"), Ігар Бышнёў (Бярэзінскі біясферны запаведнік)*




SUMMARY

***An essay about an earthworm complements a socio-ecological advertisement feature defending animals that die during straw-cutting and other agricultural work.***




за што палячыцца ад такой вады," – горка заўважаюць медыкі. І міжволі паўстае пытанне: а ці не спазніліся паважаныя аўтары (зрэшты, прычым тут яны?) з прапановай "Захаваць Тураўшчыну"? Можа, і сапраўды ўжо няма чаго захоўваць, як лічаць заезныя вандроўнікі?

Думаю, гэта не так.

Год таму адзін нямецкі натураліст, калі ўбачыў на Балонні (урочышча, што прасціраецца на поўнач ад Турава, невялікі поймавы луг) шматлікія гнёзды птушак, быў вельмі здзіўлены і ўсхваляваны. Ён зайздросціў нам, беларусам, што гэты прыродны скарб у нас ёсць, а ў іх у Нямеччыне ўжо няма. І гэта, мяркуе ён, наша нацыянальнае багацце, якое нельга прадаць альбо купіць. Аднак сацыяльна-эканамічнае развіццё Турава – сёння рэальная пагроза існаванню ўрочышча. Пра гэта ўсё часцей выказваюцца і спецыялісты з Мінска. Здавалася б, мясціна даўно павінна быць у спісе ахоўных тэрыторый (плошча – некалькі гектараў). Аднак раённае начальства лі[illegible]ць інакш: маўляў, ахоўных тэры[illegible]рый у раёне ажно зашмат.

Але звернемся зноў да Ул. Караткевіча: *"Падумайце над тураўскай гісторыяй. Бо вось збудавалі на адной палове гарадзішча дзіцячую пляцоўку з прыбіральняй на роту салдат, завялі гароды (цыбуля на былой славе), ....разрылі земснарадам бераг Струменя над гарадзішчам. І цяпер ляжаць уроссып згубленыя для вучоных прылады працы продкаў, іхнія ўпрыгожванні...".*

Відаць, падумаць трэба не толькі над гісторыяй, але і заўтрашнім днём Турава. І спытацца ў тых, хто "пячэцца" за дабрабыт (а лепш сказаць, за крэслы, у якіх сядзяць), чаму сацыяльна-эканамічнае развіццё Турава абавязкова павінна суправаджацца экалагічнай напружанасцю, запусценнем. Дарэчы, запусценне – гэта не толькі сям-там пустыя ўласныя агароды. Гэта сядзібы без жыхароў, голыя прылаўкі ў крамах, дом быту на замку, незавершаная будоўля пральнага камбіната, холад у пакоях бальніцы, дзе не хапае лекаў і адсутнічаюць урачы, змоўклы палац культуры, неасветленыя брудныя вуліцы, "урослыя" ў зямлю водакалонкі, у рэшце рэшт беспрацоўныя людзі.

У Тураве няма нічога з таго, што называецца "індустрыяй адпачынку", – зручных гатэляў, утульных кафэ, плавальных басейнаў, спартыўных і забаўляльных устаноў. Наіўна думаць, што ўсё гэта з`явіцца само. Яго трэба ствараць. Краіна магла б зацікавіць іншаземцаў і ў якасці інвестараў, і ў якасці турыстаў. Трэба толькі агледзецца, пагаспадарску вызначыць галоўнае, каб не сапсаваць свайго і знайсці прадмет зацікаўлення для партнёраў. Пакуль жа ўсё наадварот: прадпрыемствы "зразаюць" штаты супрацоўнікаў, іншыя зусім не працуюць. Дзяржаўны гідралагічна-ландшафтны запаведнік, што нядаўна перайменаваны ў Нацыянальны парк "Прыпяцкі", спрабуе падмяніць сабой так і не створаны Нацыянальны парк "Тураўшчына". Займаючыся бурнай гаспадарчай дзейнасцю, адміністрацыя адцягвае і так непрыкметную ўвагу да прыродна-культурнай спадчыны гэтай зямлі.

Варта ўзгадаць папярэджанне-засцярогу, якое ўсім нам адрасаваў Ул. Караткевіч: *"Падумайце аб тым, што знікае ў нябыт, і аб тым, што ёсць і што будзе, падумайце аб душы народа... Аб людзях, якія ўзраслі на гэтых берагах такімі, якія яны ёсць, якіх за гэта трэба паважаць і з думкамі якіх трэба лічыцца".*

Адраджэнне Тураўшчыны, як і ўвогуле Беларусі, бачыцца ва ўмовах стаўлення і развіцця інстытутаў дэмакратыі, заклапочанасці станам роднай прыроды і культуры на ўсіх прыступках грамадскага жыцця краіны ўсімі яе грамадзянамі. Тое, што ёсць нацыянальным багаццем, павінна ім і застацца.

### Запаведзь ад Валодзі *



*Ул. Караткевіч на Прыпяці. 16 ліпеня 1984 Фота з кнігі "Быў. Ёсць. Буду".*

*Ні ў кога нічым не кідай і нікога не дражні. Тады ўсім будзе хораша на гэтай прыгожай Зямлі, што ляжыць крышку бліжэй да Сонца і крыху далей ад Месяца.* Казка "Чортаў скарб".

**так звалі Уладзіміра Караткевіча яго старэйшыя паплечнікі і сябры.*

# ПА-НАД МЕЖАМІ

OVER THE BARRIERS

*Восем гадоў таму, калі наша планета была крышачку маладзейшая, газета "Уорлд пейпер" (ЗША) зладзіла цікавую акцыю -- правяла экалагічнае апытанне, якое сабрала 755 галасоў -- адказаў **з усяго свету**. Пытанні анкеты былі сфармуляваныя такім чынам, каб скласці ўрэшце рэшт выразнае ўяўленне пра адносіны чытачоў да праблемаў навакольнага асяроддзя. Гартаючы "зялёнае" дасье, мы спыніліся на гэтай публікацыі, бо параўноўваючы тое, што было ў 1990 годзе, з тым, што ёсць зараз, мы маем магчымасць як бы збоку ўбачыць, куды ідзе караван, што навокал мяняецца. У тым ліку і за нашымі вокнамі. "Да пестыцыдаў, — адзначае газета, —відаць, паўсюль адносіны дрэнныя. Нягледзячы на пэўныя перавагі — большыя ўраджаі і адсутнасць шкоднікаў,— чытачы, аднак, дружна выказваюцца за чыстую гародніну, гэта значыць, вырашчаную без ужывання хімікатаў". "З адказаў на тэму абутку можна зрабіць выснову, што перавага аддадзена якасці перад колькасцю. Незалежна ад краінаў, адкуль прыйшлі водгукі, большасць аўтараў згодная з тым, што адна пара дарагіх туфляў лепш, чым некалькі пар, купленых за нязначны кошт. "Савецкія людзі, — заўважае "Уорлд пайпер", — былі адзінай групай чытачоў, якая лічыць, што для ўнікнення далейшага забруджвання асяродкаў неабходна прыняць новыя законы, а не з большай стараннасцю захоўваць тыя, якія ёсць."*

## Лепш не ведаць танных красовак і працаваць на заводзе, які не труціць ваколіцы

### Што паказалі вынікі аднаго апытання



**Х**то, на вашу думку, нясе галоўную адказнасць за збядненне прыродных багаццяў?

*Урады: 28%*
*Прамысловасць: 30%*
*Мы самі: 42%*

**Н**а якім узроўні — мясцовым, нацыянальным або міжнародным – вы больш ахвотна будзеце абараняць навакольнае асяроддзе?

*Мясцовы: 45%*
*Нацыянальны: 20%*
*Міжнародны: 27%*
*Наўрад ці буду актыўна абараняць: 8%*

**Ц**і лічыце вы, што для таго, каб дагнаць астатні свет, краіны, што сталі на шлях развіцця, мусяць тымі ж самымі метадамі эксплуатаваць прыр однае асяроддзе, як гэта рабілі ў свой час развітыя краіны?

*Так: 22%*
*Не: 78%*

**К**алі б у вашым горадзе былі абсталяваныя дарожкі для ровара, а да месца працы было б не надта далёка, ці згадзіліся б вы перасесці з сядзення машыны ў сядло двухколага транспарту?

*Так: 82%*
*Не: 18%*

**Ц**і насілі б вы шубу з футра дзікай жывёліны, калі б яе, шубу, атрымалі ў якасці падарунка?

*Так: 32%*
*Не: 68%*

**Н**ам патрэбны новыя законы ці хапіла б больш пільнага выканання тых, якія ёсць, каб не дапусціць далейшага забруджвання прыроднага асяроддзя?

*Новыя законы: 34%*
*Больш жорсткае выкананне існуючых: 66%*

**Ц**і падтрымалі б вы неадкладнае закрыццё завода, які атручвае паветра ў вашым горадзе, калі гэта галоўнае месца працы гараджанаў?

*Так: 60%*
*Не: 40%*

**Я**кі, на вашу думку, самы эфектыўны спосаб пахінуць прадпрыемства, што забруджвае наваколле, да захавання адпаведных патрабаванняў?

*Падатковыя стымулы: 23%*
*Растлумачальная работа: 18%*
*Байкот з боку спажыўцоў: 36%*

**К**алі б вы жылі ў бедным ды эканамічна занядбалым раёне і ў вас была адзіная альтэрнатыва, ці выбралі б вы за лепшае развіваць турызм, які прыцягне тысячы людзей, ці спынілі б свой выбар на будаўніцтве папяровай фабрыкі, якая забяспечыць жыхарам працоўныя месцы?

*Фабрыка: 28%*
*Турызм: 72%*

**Ц**і згадзіліся б вы ахвяраваць лішнія паўгадзіны часу на дарогу да працы, калі дзякуючы гэтаму будзе спынена будаўніцтва дарагога маста праз некранутае возера?

*Так: 76%*
*Не: 24%*

**Н**а якім узроўні павінны вызначацца дапушчальныя ўзроўні забруджвання навакольнага асяроддзя?

*Мясцовы: 26%*
*Дзяржаўны: 26%*
*Міжнародны: 48%*

**В**ы адчуваеце большую небяспеку, калі з трубаў валіць чорны дым, а не белы?

*Так: 44%*
*Не: 56%*

**К**алі вырашчаная без хімікатаў гароднiна каштуе гэтулькі ж, як і апрацаваная пестыцыдамі, ці спыніце вы свой выбар на ёй, нават калі яна

## КАНТРАПУНКТ CONTRAPUNCT

### Блізкае і далёкае

*Неба - наймаляўнічая частка любога пейзажа. Асабліва надвячоркамі, калі фарбы захаду просяцца на палатно ці ў фотааб'ектыў. Гэты раз вы бачыце на здымку (у цэнтры) імгненне рэдкай нябеснае з'явы: бег каметы (з калекцыі нямецкіх астраномаў, падараванай Мінскаму планетарыю). Калі да касмічнага цела мы можам наблізіцца толькі з дапамогай магутных аптычных прыстасаванняў, дык хараством родных ваколіцаў можам любавацца ў непасрэднай і не менш хвалюючай блізкасці.*







*Фота: Аляксандр Гутоўскі (здымкі злева і справа).*

 

Як добра, што мы не павінныя забіваць зоркі! Уяві сабе: чалавек дзень пры дні цэліцца ў поўню. А поўня бяжыць ад яго. Ну, а калі б чалавеку давялося паляваць на сонца? Не, што ні кажы, нам яшчэ падфарціла!.. Як добра, што мы не павінныя забіваць сонца, поўню і зоркі.

Хемінгуэй.
*"Стары і мора"*

хутка падвяне і страціць выгляд хутчэй, чым апрацаваная?

*Так: 87%*
*Не: 13%*

**Я**кі від энергіі (паводле апрацоўкі) будзе, на ваш погляд, пераважаць у будучыні?

*Выкапневы: 4%*
*Ядзерны: 20%*
*Сонечны: 4%*
*Гідра: 0%*
*Іншыя: 2%*

**Н**е зважаючы на свой густ, што б вы палічылі за лепшае для вашых сугрsucc?

**Х**то, па-вашаму, больш за ўсіх вінаваты, што скарачаецца колькасць дзікіх афрыканскіх сланоў?

*Вытворцы тавараў з слановай косці: 11%*
*Спажыўцы: 40%*
*Браканьеры: 18%*
*Урады, якія не змагаюцца з браканьерствам: 31%*

**К**аго, на ваш погляд, трэба аддаць пад суд за калецтвы, ахвяры, урон ад эрозіі, паводак, апоўзняў — наступстваў драпежніцкіх высечак трапічных лясоў?

*Лясную прамысловасць: 19%*
*Прадпрыемствы, якія купляюць шмат драўніны: 12%*
*Урады, якія не процідзейнічаюць вынішчэнню лясоў: 58%*
*Нікога: 1%*

***Да чытачоў.*** *Здаецца, не трэба асабліва ламаць галаву, каб за кожным пытаннем у, так бы мовіць, інтэрнацыянальным кантэксце знайсці сваю нацыянальную, часам мясцовую канкрэтыку. Таму і запрашаем да гаворкі. Да якога радка з працэнтамі вы сябе далучылі б? Чаму?*

SUMMARY

***T**he problem of what a priority green values are is always a relevant one, and this can be seen through comparisons. The newspaper returns to an ecological opinion poll which was held eight years ago among readers of the American newspaper World Paper from different countries around the world. This retrospective article is entitled "It's better not to buy cheap sportshoes and work in a factory that doesn't poison the environment".*



# Пры сваёй хатачцы кожнай душы люба-соладка прытуліцца

*Мінскі мастак Алесь Цыркуноў (здымак справа) не першы год летуе ў ціхім зялёным куточку паблізу возера Нарач. Сам збудаваў сабе хату з майстэрняй і лазню. Рады людзям і краявідам. А людзі рады яму. Заходзяць да мастака суседзі і знаёмыя, ці проста ахвотныя паразмаўляць на вечныя тэмы, паслухаць творцу. Прырода, родная мова, а яшчэ фізічная праца на сядзібе, лічыць Алесь, — добрая крыніца для творчасці, новых задум і планаў.*

*Прызбачка роднай хаты мілая кожнаму, хто ў ёй нарадзіўся. Гэтак скажуць і сёстры з мястэчка Свір, што на беразе яшчэ аднаго, аднайменнага, возера на Мядзельшчыне. Іхняя вуліца - Беражэнская - спускаецца да самай вады.*





*Фота: Аляксандр Гутоўскі.*

## У любой сітуацыі трэба думаць пра экалогію, пра наш дом і нябёсы над галавой, —

**так гавораць Інгрыд і Эрвін Карасы – сямейная пара з нямецкага горада Райне.**

*Падчас традыцыйнага міратворчага Тыдня, што праходзіў у Мінску, Беларускі камітэт міру сумесна з нямецкай арганізацыяй "Меннэрарбайт" ("Работа для мужчын") Евангеліцкай царквы Вестфаліі (г. Швертэ) наладзілі семінар. Былі заслуханыя два даклады аб сацыяльным і эканамічным становішчы дзвюх краін, адбылася дыскусія.*

*На пытанне "БП" да нямецкага дакладчыка, як улагоджваецца канфлікт паміж сацыяльнымі ўмовамі і экалагічнымі мэтамі, госць засведчыў праблематычнасць сённяшняга становішча і адзначыў вялікую ролю засваення грамадствам экалагічных стандартаў, выхавання свядомасці і псіхалогіі людзей. Напрыклад, сказаў ён, каб не нашкодзіць асяроддзю і захаваць меру ашчаднасці, свядомы немец можа дазволіць сабе ўсяго адзін авіярэйс на працягу пяці гадоў. Вядома ж, гэта супярэчыць з жаданнем (і магчымасцю) немцаў падарожнічаць,у тым ліку на паветраных лайнерах. Перапынак на каву даў магчымасць прадоўжыць гаворку на зададзеную тэму з удзельнікамі Тыдня міру. Было цікава распытаць гасцей пра дзейнасць царкоўнай арганізацыі, здольнасць вернікаў уплываць на грамадскую свядомасць і паводзіны людзей у сферы ўзаемадачыненняў "чалавек - навакольнае асяроддзе".*

Мы ў сябе паміж вернікамі не дзелім сферу гэтага ўплыву і не робім гэты клопат эпізадычным. Ён агульны і несупынны. Грамадская думка фарміруецца штодня, гэта працэс выхавання і самавыхавання. Так, мы імкнёмся паўплываць на свядомасць людзей там, дзе яе нестае; скажам, каб электрычнасць была таннейшая, трэба і карыстацца ёю ашчадна, дбаць пра яе даўгавечнасць, разумны расход. Мы даводзім вельмі карыснае правіла як мага менш карыстацца аўтамабілем, бо гэта звязана з чысцінёй паветра і больш аддаленымі вынікамі, якія абцяжарваюць стан навакольнага асярод-дзя. Адным словам, мы выхоўваем культуру спажывання – а не так, каб з'есці ўсё за адзін раз. Людзі павінны жыць з разуменнем таго, што ўсе мы на гэтай зямлі знаходзімся толькі нейкі адрэзачак часу, што за намі павінны прыйсці наступныя пакаленні.

Увогуле, мы шмат чаго спрабуем давесці людзям. Часам падказваем, як выбіраць той ці іншы тавар у крамах, каб людзі лепш арыентаваліся, ведалі апроч іншых і экалагічныя характарыстыкі. Напрыклад, купляючы рэч, трэба памятаць, якія будуць пасля адыходы – біялагічныя альбо хімічныя.У любой сітуацыі чалавек мусіць думаць пра экалогію, у тым ліку задавальняючы і сваю пакупніцкую здольнасць. Мы не раім людзям таксама купляць прадукцыю ў пластыкавых пляшках або пакетах, гаворым пра тое, што ў гэтых выпадках больш мэтазгодна мець справу з папяровымі ці кардоннымі ўпаковачнымі матэрыяламі, якія затым лягчэй перапрацаваць. Мы тлумачым, якая вытворчасць больш небяспечная і якая – менш. Калі ўзяць тыя ж пластыкавыя пляшкі, дык мала таго, што іх цяжка перапрацаваць. На іх выраб ідзе большая колькасць паліўна-энергетычных рэсурсаў, ды і вытворчасць нясе значныя непрыемнасці.

Вялікія праблемы з будаўнічымі матэрыяламі. Таннае жыллё ў рэшце рэшт абыходзіцца дорага, калі мець на ўвазе экалагічныя наступствы. Шмат ужываецца пластыку, розных цеплаізалятараў, якія зберагаюць паліва, але затым, калі век іх сыходзіць, засмечваюць прыроднае асяроддзе.

Вельмі важна ўвесь час пра гэта даводзіць, раіць, засцерагаць. І людзі ўдзячныя нам за карысныя ўвагі. Мы ўсё менш і менш бачым вакол нас абыякавых. Кожны бацька і кожная маці хочуць, каб дзеці іх мелі будучыню і каб самі дзеці пра гэта ведалі.

*Запісаў* ***Віталь Прошча***



 

# Белыя-белыя зоркі ў затоках

*Часлаў Булат*

Яшчэ, дзякуй богу, можна сесці ў электрычку, выйсці на энным, не такім ужо й далёкім кіламетры-паўстанку, адмераць вярсту-другую духмяным лугам і ўбачыць на выгіне рэчкі... Так, гэта будуць яны, — цуд, у які ўжо душа ваша трохі здрадліва адмаўлялася верыць, — белыя ці жоўтыя гарлачыкі. Убачыце іх і адразу пачуеце дзесьці пад сэрцам ціхі-ціхі званочак: гэта будзе званочак з дзяцінства. Ці, можа, юнацтва.

Што зробіш, сёння гарадчукі часцей пакідаюць асфальт, каб не даць зарасці буракам на лецішчы ды як мага сабраць з бульбы каларадскіх жукоў. А рамантычнае спатканне з белай лілеяй застаецца для большасці калі не мараю, дык прыгожым сном (што знойдуцца абсалютна раўнадушныя, у гэтым сумнення таксама няма).

Несумненна іншае: лілея – каштоўнасць не адно біялагічная. Гэта яшчэ скарб чалавечай душы.

Белую лілею (будзем гаварыць пра яе) любілі і шанавалі, напрыклад, у старажытным Рыме. Кажуць, на фрэсцы аднаго з раскапаных храмаў Пампеі можна і сёння пабачыць кветкі гарлачыкаў, якімі ўпрыгожвалі крылатых бажкоў і геніяў.

Старажытныя грэкі мелі чароўную кветку за сімвал харства і красамоўнасці. Асабліва прыхільна да белай лілеі ставіліся дзяўчаты: збіралі ў гірлянды, заплятвалі ў валасы, падчас шлюбных рытуалаў плялі вянкі.

У сярэднявеччы белы гарлачык сімвалізаваў чысціню і бязгрэшнасць, таму насеннем яго спрабавалі скарыстацца ў якасці сродка ад празмерных цялесных жаданняў. У праватнасці, трымалі як далікатныя лекі ў манастырах і давалі манахам ды манашкам. Наконт эфектыўнасці можна сказаць, што пазней гэта не было пацверджана даследваннямі.

Затое досведам пакаленняў была засведчана засцерагальная сіла воднай лілеі.Высушаныя карэнішчы падвешвалі да ложка хворага, а пялёстак ці кавалачак ліста бралі з сабой, калі выпраўляліся ў далёкую вандроўку. Абярогі з часцінак расліны вядомыя і з нашае беларускае даўніны. Царыца ціхіх затокаў, азёраў і старыц, лілея часта ўважалася яшчэ за кветку русалак: хто пажадае сарваць яе, рызыкаваў трапіць у палон прыгожых спакусніц, што чакалі ў люстэркавых хвалях, каб завабіць на самае дно.



Фота:Неруш-прэс

Ёсць паданне, што дзівосная кветка ўзнікла з цела прыгожай цнатлівай німфы – няшчаснай ахвяры кахання, яе разбітага сэрца. Адсюль, дарэчы, і навуковая назва казачнай кветкі — *німфея*. Ёсць звесткі, што такую паэтычную назву даў лілеі знакаміты шведскі прыродазнавец Карл Ліней у 1753 годзе.

*"З першымі промнямі сонца,* – пісаў вучоны, — *белы гарлачык выцягвае сваю галоўку з вады, паступова растульваючы пялёсткі, і ўжо пад поўдзень выдаецца над роўняддзю амаль на 8 сантыметраў. Па захадзе сонца кветка не толькі закрывае свае пялёсткі, але і ціха апускаецца пад ваду".* Аднак гэта не абавязкова так. Адмыслоўцы-батанікі сведчаць, што Лінею, бадай, трапілася на вочы ўжо апылкаваная машкарою німфея. У дачыненні да неапылкаванай лілеі ўсё выглядае крыху інакш: німфея толькі складвае свае белыя пялёсткі і часткова хаваецца пад ваду, каб раніцай зноў растуліцца. Адбываецца гэта ў 7-8 гадзін, — у гэты час белы гарлачык распускаецца. А праз дзесяць гадзін, калі сонца на гарызонце, кветка згортваецца, атульваючыся зялёным каўнерыкам з прылісткаў.

Рыбакам, якія вудзілі ў гарлачыкавых завадзях, не абавязкова было трымаць у кішэні гадзіннік, каб даведацца часу –жывы цыферблат ляжаў перад вачамі як неруш.

Лілеі маглі паказваць не толькі часіну дня. З'яўленне ў рацэ або возеры круглых талерак-лістоў давала падставы сялянам забыцца на вясновыя прымаразкі. Гэтая далікатная расліна як бы ахоўвала надалей усё, што расло й паспявала ў людскіх агародах ці ў полі.

Сёння сустрэча з белай лілеяй хвалюе і ўражвае, выклікае асабліва радасныя пачуцці. Чалавек адчувае скурай, што сам сябе абкрадае, калі навокал так збядняецца ландшафт, губяцца рэкі і рэчкі, усё менш ды менш застаецца балотаў і мокрых лужкоў. Белы ці жоўты гарлачык аддаляецца не толькі ад гарадскіх жыхароў, але і сельскіх. *"Калі я ўбачыў у рачной затоцы россыпы белых гарлачыкаў, мне здалося, што свет не такі благі і жорсткі",* — напісаў аднойчы ў сваім дзённіку мінскі школьнік. На тое "свет" мусіў бы адказаць падлетку, што з гэтага часу пачне ўзнаўляць усе асяродкі німфейных, якія ён жорстка паніштчыў. Але стары свет прамаўчаў. Свет, у прынцыпе, не мяняецца. Мяняцца, перайначвацца павінны мы. Але гэта ўжо крыху іншая і, бадай, менш лірычная тэма.

SUMMARY

*The author of this essay sees the water lilies which grow in the abundant Belarusian rivers, lakes and ponds as white stars in the backwaters.*

ЛЕС - ЛЁС



## Год таму...

Беларускі лес яшчэ залечвае раны пасля ўраганнай моцы, што звалілася летась на ягоныя плечы. Пацярпелі сотні лясных кварталаў, агаліліся тысячы гектараў зялёнай тэрыторыі. Лес заслужыў глыбокага чалавечага спачування, нашай спагады і жалю. Ён паўстаў магутнай сцяною, якую сіла стыхіі адразу адчула і на якой хутка зняможылася. Ён падняў свой шчыт і трымаўся па-геройску. Ёсць вялікія ахвяры і ёсць балючыя раны.

Мінуў год. Спамянём віхурную хвіліну. Дачуемся слушнай парады вялікага знаўцы лесу Якуба Коласа, які жадаў беларускім лясам:

*"... адпачыць,*
*Акрыцца адзёжынай свежаю новай*
*І меней чуць, бачыць сякер, піл сталёвых,*
*Што поўнілі звонам гушчары, дубровы,*
*Бо ў іх ваша гора гучыць."*

Парада мудрага песняра, хоць і выспетая ў іншых, пасляваенных варунках, не менш слушная сёння.

* *каб ніколі не гнуўся!*

*Фота: Вільгельм Дубіловіч (Мінск)*

*Даведка рэдакцыі.*
**Беларускі народны банк** — самы сталы ўдзельнік экафундацыі на старонках газеты **"Белавежская пушча"**

## Крыніца збірае сяброў, а сябры — подпісы

Нядобрыя хмары згусціліся над Палыкавіцкай крыніцай, якую даўно ў Магілёве і наваколлі ведаюць як святую. Ціск прылеглай забудовы пагражае парухай і нават знішчэннем рэдкасці. Дапусціць такую страту было б недаравальна. Лёсам крыніцы заапекаваліся найперш мясцовыя грамадскія арганізацыі. Зварот, які яны падпісалі, адрасаваны ўладам, што папускаюць гвалт і ўціск на прыроднае асяроддзе. Актывісты настойваюць на неадкладных захадах дзеля ўратавання каштоўнасці. Зялёны рух спадзяецца, што на падставе Закона крыніцы будзе забяспечаны адпаведны ахоўны статус, які ў рэшце здолее асланіць святыню.

У Міністэрстве прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя мы атрымалі даведку, што Палыкавіцкая крыніца зьяўляецца *гідралагічным помнікам прыроды рэспубліканскага значэння* (дарэчы, адным з двух на Беларусі). Праўда, у абласным камітэце не спяшаюцца "драматызаваць" становішча і пакуль што не бачаць падстаў для "эмоцый".

***Уладзя Ляская,***
*"Белавежская пушча"*

## МАРТЫРАЛОГ

# Разбіты азёрны кухаль

***Іван Івашка***

Гэтае возера, ледзь не з усіх бакоў акружанае дрэвамі, было кухлем, з якога ўсе пілі. Можа, таму і назвалі яго Вінішчам.

Было гэтае возера люстэркам, у якое ўсе пазіраліся.

І было яно, вядома ж, балеяй, у якой усе плёскаліся, купаліся, мыліся.

Хто піў з яго, хто пазіраўся ў яго, хто ў ім плюхаўся, хто купаўся? Ды вядома ж хто – усе насельнікі тутэйшага лесу. Птушкі, звяры, дрэвы, травы, русалкі. Хто днём, а хто ноччу пры месячным святле.

Не цураліся кухля з Вінішчам і людзі. Часцяком заглядвалі сюды, прычашчаліся кропляй адвечнай красы, рабіліся здаравейшыя, чысцейшыя, мудрэйшыя. Векавы ж настой-напой быў у возеры! Мо не меней чым на ста хмельных травахзёлках настоены! А яшчэ крынічнае срэбра, яловыя смолы, русалчыны чары! Блакітны бальзам у смарагдавым кухлі!

І было гэтае возера ў тутэйшых мясцінах на мяжы Нясвіжчыны і Стаўбцоўшчыны, ва ўтульным кутку Нясвіжскай пушчы — адно-адзінае. Адно на ўсе навакольныя лясы, палі, вёскі. Адно на ўсіх звяроў, русалак, людзей.

І цешыліся, даражылі ім людзі. Быў час, нават за святыню мелі яго. Гэта калі пры паляках адзначалі Свята вады. Фэсты ладзілі. Набажэнствы адпраўлялі. Ад бліжэйшай вёскі Ахрэмавічы да Вінішча паўз лес брук вымасцілі. З усяго наваколля гэтай дарогай люд паспаліты з'язджаўся, сыходзіўся...



*Аркадзь Астаповіч.*
*КРАЯВІД З ВОЗЕРАМ.*
*Туш.*
*1915*

Было лясное возера Вінішча... Я жыў у трох-чатырох кіламетрах ад яго. Таму вострa адчуваю страту...

Возера няма ўжо, бадай, за трыццаць гадоў. Знішчылі яго людзі. Учынілі здзек, глум, гвалт. Пры гэтым яшчэ зрабілі выгляд, што ўдзячную, нават прыстойную справу робяць, урадлівасць палёў павышаюць.

Адразу ўверх дном паднялі балоты, торф увесь пылам па ветры пусцілі. Дабраліся і да возера. Гэтаксама, як і навакольныя балоты, перакулілі ўверх дном, глей землечарпалкамі ўзяліся браць.

Можа, трохі і дадалося бульбы ў кашах, збожжа ў калгасных засеках. Але якім коштам? Трэснуў, разбіўся крыштальны кухаль возера, разлялецелася ўшчэнт русалчына люстэрка, не засталося ў азёрнай балеі ні кроплі вады.

Знік з галерэі свету геніяльны шэдэўр, створаны душой, рукой, палітрай самога Бога. Створаны для людзей. Знішчаны самімі людзьмі. Абсурдна і грэшна...

Кара за святатацтва не прымушае сябе чакаць. Ныюць ад смагі, сохнуць тутэйшыя лясы. Рэдка натрапіш тут зараз на ласся ці вепра, усё меней становіцца ягад, грыбоў. Лесуны і русалкі не прымроюцца нават паэту. Пэўна, ляжаць недзе ў рассохлай, патрэсканай дамавіне возера. Мёртвыя, як і само возера...

*в. Вязавец,*
*Стаўбцоўскі раён*

# НАБАТ TOCSIN

## Калгасныя лясы перажываюць чарговую трагедыю свайго гарацешнага лёсу – яны маўкліва паміраюць



Пакуль канчаткова ўпадуць калгасы як форма самага, бадай, нялюдскага гаспадарання на беларускай зямлі, тымчасам лясы, якія ім належаць, цалкам страцяць сваё аблічча і пераролзяцца ў пусткі, зарослыя быльнягом. А сёння іх не так і мала – лясныя землі калгасаў і — часткова – дзяржаўных гаспадарак складаюць 11 працэнтаў усяе лясной нівы Беларусі.

Несуцешная перспектыва паўстае са статыстыкі, з якой пазнаёміў "БП" спецыяліст-эколаг Тадэвуш Шастак. Абоймы **самавольных высечак** у 1995 годзе склалі каласальную лічбу – 23 тысячы кубаметраў з гакам. У 1996 страты скараціліся да 8,3 тысячаў, а ў мінулым годзе зноў прыкметна ўзраслі — 12,7тыс. кубаметраў. Гэта значыць, багацце, якое мы звыкла называем нацыянальным, нішчыцца прыкладна гэтак жа, як кукуруза, калі ў ёй паспяваюць смачныя качаны. Частуйся, каму ахвота! Карыстайся, пакуль ёсць гэтая "халява"!

Почасту там, дзе сякуць з дазволу (а сякуць жа цэлымі дзялянкамі!), **да ўзнаўлення лесасекаў рукі не даходзяць.** Прыклад – Гродзенская вобласць. За апошнія дзесяць гадоў тут суцэльных лесасекаў нарабілі на 359 гектараў, а пасадзілі лесу ўсяго на 40. Астатняя плошча засталася зарастаць.

Крыўдна, што **выручаныя за драўніну грошы не ідуць на падмогу лесу** – прынамсі, патрэбы ў дзесяткі разоў перавышаюць суму, якая на тое выдаткоўваецца.

Як пасведчыў Тадэвуш Шастак, большасць калгасаў і дзяржаўных прадпрыемстваў **не маюць праектаў развіцця** лясных кварталаў, што ім належаць. Лёс гарацешных лясоў вырашаюць брыгадзіры, прарабы, загадчыкі фермаў. Чаго можна чакаць ад гэткага сумяшчэння, добра вядома. І толькі лічаныя гаспадаркі маюць спецыялістаў, здольных неяк пацягнуць лясную гаспадарку, стрымаць рабаванне і звод зялёнага скарбу.

Ёсць яшчэ лясы, даводзіць Тадэвуш Шастак, якія нагадваюць "ціхія зоны", дзе законы, лічы, няпісаныя. Гэта калі калгасы падпарадкаваны аднаму раёну, а лясныя дзялянкі палягаюць у межах лясніцтваў іншых лясгасаў на "чужой" тэрыторыі, гэта значыць, далёка ад вачэй "свайго" раённага начальства і мясцовага люду. **Санкцыянаваныя "лясныя прытоны"** існуюць не так сабе: чыноўнікі знайшлі тут поўнае ўзаемаразуменне і скарыстоўваюцца гэтымі ціхімі прытулкамі як іх душа пажадае. Хочаш – палюй, хочаш – балюй, а хочаш – пілуй...

Між тым, пры гэткім становішчы спраў, служба статыстыкі, на думку Тадэвуша Шастака, не падае неабходных праўдзівых звестак пра "сірочыя" лясы, як і камунальных службаў, сельскіх выканкамаў, леспаркгасаў і інш.

Тым часам працягваецца іх маўклівае скананне. Кварталы здратаванага лесу дзічэюць і закустоўваюцца. Месцы раскошных ягаднікаў зарастаюць пустазёлам. Падае прадуктыўнасць лясных дзялянак, значыць, церпіць і калгасная эканоміка. У рэшце рэшт бяднее навакольная прырода, на маральныя пакуты асуджаны сельскія жыхары, асабліва тыя, хто зжыўся з прыродай і мае за найвялікшую каштоўнасць свой навакольны пейзаж, красу і веліч родных ландшафтаў.

Дзяржава патурае такому парадку справы, бо яе пастановы не маюць ані вагі, ані вартасці. Паводле меркавання спецыялістаў, тыя лясы, якія чарговым рашэннем урада пакінуты калгасам ( дзялянкі не больш за 25 гектараў), з часамператворацца ў ледзь прыкметныя зараснікі і ў рэшце рэшт знікнуць з аблічча зямлі. У калгасе, як вядома, няма такой сілы, якая б прымусіла чалавека быць сапраўдным гаспадаром. Які ж лес тут вырасце!

***Дзедзіч***

## Што можна зрабіць?

Сярод людзей нямала такіх, хто не здольны моўчкі глядзець, як чалавечы род глуміць прыродныя асяродкі, збядняе ландшафты, забруджвае наваколле. Але не ўсе ведаюць, чым дапамагчы, што можна зрабіць.

Прапануем:

* **Тэлефануйце!** *Але майце на ўвазе: калі гэта злосны выпад супраць прыроды, ад вас запатрабуюць падрабязныя звесткі (напрыклад, нумар машыны, месца, час ды іншыя прыкметы здарэння, сведкі і г.д.). Лепш тэлефанаваць у раённую інспекцыю прыродных рэсурсаў, пракуратуру, прыёмную райвыканкама або журналісту райгазеты, якога ведаеце як абаронцу зялёных каштоўнасцяў. Пажадана, каб тэлефанаванне было па свежых слядах, інакш гэта не прынясе жаданага эфекту. Абавязкова спытайце імя чалавека, з якім размаўлялі, і будзьце гатовыя назваць самі або патлумачце,чаму не можаце назваць сваё імя. Патурбуйце гэтую ж службу назаўтра ці праз дзень-два.*

* **Дасылайце лісты** *са зваротамі і патрабаваннямі ў розныя інстанцыі:*

*1. Вашаму дэпутату (сітуацыя з "легітымным" і "нелегітымным" парламентамі рана ці позна скончыцца).*

*2. Міністру прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя*

*220048 Мінск, Калектарная, 10*
*Русы Міхаіл Іванавіч*
*тэлефон 220-66-20*

* **Звяртайцеся** *да мясцовых уладаў і ў прэсу (як дзяржаўную, так і недзяржаўную) з патрабаваннямі прымаць захады дзеля змяншэння экалагічнай небяспекі і рызыкі, маючы падставы і канкрэтныя аргументы.*

* **Не адступайце**, *турбуйцеся, біце ў набат, не бойцеся "наламаць дроў"! Вы адстойваеце права на здаровае навакольнае асяроддзе цяперашняга і наступных пакаленняў. Вы спаўняеце грамадзянскі і патрыятычны абавязак – абараняеце біялагічную разнастайнасць зямлі і сваёй Бацькаўшчыны.*

## Дараваная прыродай чыстая вада робіцца ўсё больш недасягальнай для нас

**Адвечная ісціна:** вада незаменная для жыцця.

**Зацемка для цікаўных:** кожны з нас на 70 працэнтаў з вады.

А колькі ж яе навокал, па-за межамі нашага "я"? Паспрабуем удакладніць. Абоймы прэснай вады, дасягальныя для скарыстання, досыць абмежаваныя і складаюць менш як 1% усіх сусветных запасаў (астатнія 99 адсоткаў — марская вада). Але і гэтай колькасці прэснай вады, бадай, цалкам хапіла б, калі б яе ўвесь час не загаджвалі ў працэсе бяздумнага гаспадарання.

Яшчэ колькі дзесяцігоддзяў назад мы маглі піць ваду з адкрытых вадаёмаў. Сёння ж, баючыся нашкодзіць здароўю, не кожны рызыкне нават акунуцца ў хвалях ракі альбо возера. Нас усюды падпільноўвае небяспека. Дараваная прыродай чыстая вада робіцца ўсё больш недасягальнай для нас. Далейшае забруджанне пагражае такімі наступствамі, пры якіх прыродны хімічны збор вады можа саступіць месца штучнаму, нязнанаму ў прыродзе. Гэта і ёсць вялікай пагрозай экасістэмам, часткай якіх мы з'яўляемся.

Атручваючы водныя крыніцы, мы рушым асновы, ад якіх залежыць наша жыццё і наш дабрабыт.

### Пра ўплыў "рассеяных крыніцаў" на якасць жыцця беларусаў

Тымчасам на тэрыторыі Беларусі працягваецца заняпад водных экалагічных сістэмаў. Працэс выкарыстання гэтых каштоўных запасаў непадуладны дзяржаве. Ад усяго аб'ёму вады, што выдаткоўваецца ў краіне, 40 працэнтаў бяжыць задарма, папросту кажучы, ўходаецца. У кватэрах, на прадпрыемствах цякуць краны, зліўныя бачкі, працякаюць вадаправодныя сеткі і інш.

Статыстыка краіны не вядзе ўліку так званых рассеяных крыніцаў забруджвання ў сельскай гаспадарцы. Ацэнка шкоднага ўздзеяння гэтага сектара эканомікі на прыроду "ставіцца" агулам, прыблізна, а не з дапамогай навуковых метадаў. Колькі сцёкаў і дзе канкрэтна, ведаюць хіба тыя, хто спускае атруту. Як вынік – няма адпаведных санкцыяў той ці іншай гаспадарцы за яе дзеянні і наступствы. Тым часам якасць пітной вады ў сельскай мясцовасці даўно выклікае трывогу. 75 працэнтаў насельніцтва,як сведчаць навукова-даследчыя службы, п'юць ваду няякасную, чэрпаючы яе з калодзежаў, дзе процьма нітратаў.

SUMMARY

*The newspaper speaks out in defence of forests which have fallen into incapable hands, and are currently dying.*

 



## Адказваючы на пытанні анкеты, чытачы прапануюць:

- *як мага пабуджаць грамадскія сілы гарманізаваць прыроднае асяроддзе*
- *абвясціць Беларусь тэрыторыяй чысціні і парадку і дамагчыся рэальных вынікаў*
- *рабіць газету "Белавежская пушча" больш цікавай для моладзі і карыснай для педагогаў*
- *арганізаваць алімпіяду, конкурс, турысцкі маршрут з прыродазнаўчым і краязнаўчым зместам*
- *дапамагаць прыродзе хто чым можа, у тым ліку падпіскай на газету "Белавежская пушча"*

## Трэба вучыць людзей, заахвочваць

Ваша газета трапілася мне на вочы ў Баранавічах на чыгуначным вакзале. Узяў. Прачытаў усё адразу, пакуль даехаў да родных Ганцавічаў. Шмат цікавага і карыснага. Добрыя загалоўкі, мова, здымкі.

Мне здаецца, мала пішаце пра смецце. Хоць я разумею: што пра яго пісаць? Усе бачаць і разумеюць, што пад нагамі хутка будзе больш смецця, чым прыроды. Аднак трэба вучыць людзей. Прыдумаць які стымул, заахвоціць. Шмат чаго можна зрабіць на ўзроўні сям'і, дома.

Але трэба ўключацца і дзяржаве. Скажам, стварыць фірму, якая б **скупляла** ад насельніцтва ўсё, што стыхійна трапляе на звалкі: макулатуру, аргтэхніку (т.зв. "б/у), адпрацаваныя акумулятары, розную тару і г.д., а затым **знаходзіла ім шляхі збыту**. Часам жа чытаеш аб`явы: куплю тое ці іншае ўжо скарыстанае ці ўжыванае. Значыць, попыт ёсць. Варта падмацаваць яго арганізацыйна, а людзям даць магчымасць пазбыцца непатрэбных ды неўжываных рэчаў і пры гэтым зарабіць на шакаладку ці лекі.

***Васіль Сцепанюк,***
*выкладчык*

## Мне ёсць што чытаць...

Дарагія сябры, аднадумцы!

Што датычыцць анкеты. Пра "Белавежскую пушчу" даведаўся з "Настаўніцкай газеты". Выпісваю, даю чытаць іншым. Усе нумары захоўваю. Выданне Вашае мае свой твар, сваю пазіцыю і свой светапогляд. З цікавасцю чытаю ўсё. Падпіску на другое паўгоддзе аформіў сабе і для ўнука, які жыве на Украіне (буду пасылаць).

І па-другое. Чыноўнік з прыродааховы, які задаволена схаміў :"А што мне чытаць у Вашай газеце", на мой погляд, патрапіў у крапіву, бо сам сабе вынес жорсткі прысуд.

Жадаю поспехаў!

***Мікалай Жучкевіч,***
*настаўнік-пенсіянер,*
Г. Мазыр

## Пабуджайце грамадскія сілы, услаўляйце парадак і лад

Як сталы чытач Вашай газеты, вырашыў адказаць на пытанні анкеты.

Упершыню пра выданне пачуў у радыёперадачы. Тэматыка мяне зацікавіла. Другі год як падпісваюся на "Белавежскую пушчу" і, здаецца, я пакуль што адзін з нешматлікіх Вашых прыхільнікаў, хто ведае і чытае газету.

Зместам старонак задаволены, аднак надалей хацелася б больш чытаць пра жывёльны свет, расліннасць. Часцей звяртайце ўвагу на ўпарадкаванасць роднай зямлі. Прылеглыя тэрыторыі гарадоў і мястэчкаў страшна засмечаныя, абраслі звалкамі і мала нагадваюць "зялёныя" ваколіцы. Не можам справіцца са сваім айчынным шалупіннем, дык наваднілі нас імпартным (бутэлькі ПВХ, іншая хімічная ўпакоўка і г.д.) Сорамна за нашы знакамітыя мясціны людскіх наведанняў і так званага масавага адпачынку (як Нарач і інш).

Пабуджайце грамадскія сілы як мага ачышчаць зямлю ад смецця, гарманізаваць прыроднае асяроддзе, адраджаць парушаныя храмы, помнікі старасвеччыны, уладкоўваць, прыбіраць могілкі і брацкія пахаванні. Мы павінныя спраўджваць дадзеную продкамі назву краіны – Белая Русь.

З павагай

***А.М.Красілевіч,***
*кіраўнік гуртка заолагаў станцыі юных натуралістаў*
г.п. Глыбокае
Віцебскай вобл.

## Мяркую найперш са сваёй педагагічнай "званіцы"

Пішa Вам бібліятэкарка-пенсіянер, у мінулым – педагог, настаўніца біялогіі. Пра газету даведалася з падпіснога каталогу.

На мой погляд, выданне, якое абрала назву сусветна вядомай мясціны, як бы завалодала момантам ісціны. Гэта значыць, газета мусіць з нумара ў нумар пісаць пра нацыянальныя скарбы краіны, яе прыродныя каштоўнасці і багацці, разгортваць шырокую прапаганду дзеля іхняй аховы і абароны.

Газета мусіць стацца набатам.

Мяркую (найперш са сваёй педагагічнай "званіцы"), газета павінна стаць дзіцяча-юнацкай. Праўда, не прымітыўнай, а глыбокай і разам з тым цікавай, карыснай і неабходнай як для навучэнцкай моладзі, так і настаўніцкай біялогіі, геаграфіі, класных кіраўнікоў, педагогаў пазашкольных установаў, каб яны маглі на старонках знайсці штосьці новае і адметнае для экалагічнага ды патрыятычнага выхавання школьнікаў. На гэтую тэму інфармацыі ў асяродках выхавання па-ранейшаму востра бракуе.

Параіла б больш пісаць і пра самую Пушчу, пра іншыя ахоўныя тэрыторыі на Беларусі, а таксама помнікі прыроды, паляўнічыя гаспадаркі, старадаўнія паркі, сядзібы-памесці, лясныя абшары, дубровы, балоты, лугі, флору і фауну. Асаблівае ўвагі чакае Палессе, яе адметная прырода, традыцыі, людзі.

Працягвайце тэмы зялёнага аздаблення тэрыторыяў, грамадскіх ініцыятываў, устойлівасці развіцця.

Можна (і я жадаю, каб гэта ўсё спраўдзілася) абвясціць адмысловую шыро-камаштабную акцыю, конкурс на лепшую даследніцкую працу, прапанаваць турысцкі (у тым ліку завочны) маршрут з прыродазнаўчым і краязнаўчым зместам, арганізаваць алімпіяду, і не адну, ды іншае.

Я хацела б, каб газету падтрымалі аўтарытэтныя людзі і зацікаўленыя ведамствы, фірмы, каб выданне развівалася і набіралася моцы.

Жадаю поспехаў --

***Рабко Людміла Сцяпанаўна,***
*Мінскі гарадскі турысцка-экалагічны цэнтр*

## Я зразумеў, што выданне якраз для мяне

Прывітанне, "Белавежская пушча"!

З павагай да Вас Сурганаў Вася. Я жыву ў гарадскім пасёлку Бялынічы і вучуся ў чацвёртым класе першай сярэдняй школы.

Вучуся на "выдатна", люблю чытаць. Зараз раскажу вам, як я пазнаёміўся з Вашай газетай. У маёй аднакласніцы маці працуе ў ахове прыроды. Аднойчы Марына (так завуць аднакласніцу) прынесла ад мамы ў клас газету "Белавежская пушча", каб пазнаёміць з ёю настаўніцу і нас, сяброў. Я вельмі зацікавіўся газетай і зразумеў, што выданне якраз для мяне. Я заўсёды хацеў чым-небудзь дапамагчы прыродзе. Буду ўдзячны, калі Вы мне падкажаце, што цяпер больш за ўсё карыснае для аховы прыроды.

Вашу газету я выпісаў з трэцяга нумара (на май-чэрвень), бо дагэтуль пра газету не ведаў. Таму заадно маю да Вас вялікую просьбу: дашліце, калі ласка, два папярэднія нумары за гэты год. Загадзя ўдзячны.

Яшчэ! У апошнім нумары за 1997 год (той самы, што дала мне Марына) я ўважліва прачытаў "Кола", дзе былі названы матэрыялы папярэдніх выпускаў і пераказаны кароткі змест. Прашу, калі гэта магчыма, даслаць мне такія артыкулы: 1995, №1 — "Пушчанскія ельнікі", "О пущах, о ловах, о бортном дереве, об озерах и лесах", "Гаючая ласка дрэва"; 1996, №3 – "Пажар у пушчы", "Сад Габрыэля ў ландшафце Еўропы і Беларусі"; 1997, №1 — "Экалагічны капітал"; 1997, №3 – "Чытачы газеты цікавяцца..."; 1997, №4 – "Роўна сем стагоддзяў таму стаяла цёплая восень, і ў сярэдзіне лістапада цвілі ружы", "Навучальны тэст "Беларускі лес".

На гэтым дазвольце развітацца. Да новых сустрэч.

*Паважаны Васіль!*

*Вельмі рады, што ў Бялынічах мы знаходзім новых сяброў, якія заўважылі наша выданне і жадаюць дапамагчы прыродзе. Мы рады і за тваю школу, і за тваю настаўніцу, і за Марыну і яе маму. Бо кожны ў гэтым коле па-свойму паспрыяў нашаму знаёмству.*

*Просьбу тваю рэдакцыя, безумоўна, ўважыць. Што датычыць нашай парады, чым бы ты мог дапамагчы сёння прыродзе — дык шмат чаго на гэты конт ты знойдзеш і ў нумары, які трымаеш, і ў наступным. Але галоўнае, мабыць, каб ты добра звёдаў свае ваколіцы, лепш дазнаўся пра каштоўнасці блізкай табе навакольнай прыроды (лес, рэчка, балота, дрэвы, пагоркі) і ад гэтага дня стаў іхнім заступнікам, абаронцам.*

*Жадаем табе і аднакласнікам шчаслівага, цёплага лета! Прывітанне тваім настаўнікам і ўсім дарослым, хто вучыць любіць прыроду і сваю Бацькаўшчыну, хто шануе родную мову і мае гонар звацца беларусам.*

*Рэдакцыя.*



*Вось такі атрымаўся партрэт... А праз імгненне яе ўжо было ледзьве згледзець у кроне дрэва. Мільгнула — што цень. Да сустрэчы, лясная маланка!*

*Фота: Вільгельм Дубіловіч (Мінск)*

SUMMARY

***Our readers answer a poll, and make a number of proposals on how to improve the paper and make the environment safer.***



 

# КЛІЧ КАСАНДРЫ

CASSANDRA'S CALL

## Чалавецтву не пагражае “Чырвоная кніга”. Але выжывуць мацнейшыя.

### На пытанні карэспандэнта”БП” адказвае антраполаг, доктар біялагічных навук акадэмік Міжнароднай акадэміі экалогіі Аляксей Мікуліч

*— Неяк Вы заўважылі, Аляксей Ігнатавіч, што самі не належыце да алярмістаў*,хоць падзяляеце трывогу і глыбокую затурбаванасць сённяшнім станам навакольнага асяроддзя. Тым часам я ведаю, што Вы літаральна штурмуеце даступныя Вам мікрафоны на пратакольна залагоджаных уладамі экалагічных форумах. Выяўленне Вашай пазіцыі бліжэй да алярму, чым да аптымізму. Скажу больш, Вы, на мой погляд, адзін з найбольш выразных і паслядоўных алярмістаў на Беларусі з ліку прафесіянальных эколагаў. Няўжо Вы лічыце інакш і падзяляеце, скажам, аптымізм міністра прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Беларусі, якога аніякім чынам алярмістам не назавеш, каб і захацеў?*

— Мне цікавы Ваш погляд збоку. Таму пытанне аднёс бы хутчэй да ацэнкі, якую прымаю з удзячнасцю. Гатовы адразу пагадзіцца з Вамі, што абвяшчаць алярм і адначасна прызнавацца ў аптымізме – гэта не пазіцыя. Прынамсі, для мяне. Спадзяюся, з нашай гаворкі Вы зразумееце, што да чаго, наколькі я алярміст і наколькі – аптыміст.

*— Я чаму з гэтага пачаў? Рэч у тым, што сёння, менавіта цяпер, бадай, у самы апошні час, так званы экалагічны аптымізм рушыў у наступ. І ў якасці першага камісара я бачу міністра прыродных рэсурсаў. Закідаюцца шапкамі складаныя праблемы, залагоджваюцца або ўвогуле замоўчваюцца цяжкія наступствы чалавечай дзейнасці, спрашчаюцца погляды і падыходы ў дачыненні да нацыянальнай экапалітыкі. Экалагічныя беды беларускага народа ўпакоўваюцца ў гэтакі фанцік з трох-пяці словаў: ёсць, маўляў, асобныя недахопы, недапрацоўкі, прамашкі... Так, глядзіш, і экалагічны валюнтарызм на двары запануе. Гэта значыць, рабі – што хочаш,як хочаш і дзе хочаш. Сімптомы ўжо відавочныя... Вашы контраргументы, Аляксей Ігнатавіч?*

— Па-першае, вельмі часта, і асабліва цяпер, як вы заўважылі, высокія дзяржаўныя чыноўнікі імкнуцца супрацьстаяць “скрайнім поглядам” людзей, у асобе якіх яны бачаць сваіх апанентаў і крытыкаў, апазіцыю. Аднак гэта не апраўдвае іхні аптымізм. Сёння ён недарэчы, а часам злачынна шкодны.

Па-другое. Чарнобыль. Трынаццаць гадоў мы пад чорным крылом катастрофы. Трынаццаць – гэта вельмі мала, каб сёння гуляць, як Вы сказалі, ў фанцікі, залагоджваць людскую свядомасць, гаварыць пра поспехі. Мы не вучымся быць шчырымі, добрымі, сціплымі. Не вучымся быць і разумнымі.

І да Чарнобыля ж не рай квітнеў. Ужо на пачатку 80-х смяротнасць сельскага насельніцтва перавысіла нараджальнасць. А на канец 70-х Беларусь была пятай пасля рэспублік Закаўказзя і Летувы па працягласці жыцця. Першай на спад пайшла мужчынская лінія. Тут адбіліся хутчэй за ўсё два чыннікі: з аднаго боку, паленне тытуню і п'янства, з другога – атрутнае дзеянне новых хімічных рэчываў, інакш кажучы, мутагенаў, да якіх чалавечы арганізм быў эвалюцыйна непрыстасаваны. Можна доўга пералічваць цэлыя абоймы шырока ўжываных хімікатаў, пачынаючы з дусту, але мушу сказаць пра іншае: канцэнтрацыі смертаноснага бруду ў нашым асяроддзі не зменшыліся дагэтуль, а па асобных відах нават павялічыліся.

*— Тымчасам наступствы ўсё больш відавочныя і ўжо не выклікаюць сумненняў. На месца першых сімптомаў заступаюць устойлівыя тэндэнцыі і ўпартыя факты. А воз усё там...*

— Прыклад. Гальванічныя цэхі як скідвалі шкодныя рэчывы ў звычайную каналізацыю, так і скідваюць. Мінеральнымі ўгнаеннямі як запраўляліся палі, так і запраўляюцца. Хоць не сакрэт: чалавек з гэтага мае хваробы. Напрыклад, у вясковых калодзежах канцэнтрацыя нітратаў перавышае дапушчальныя ў некалькі разоў. І вынік засведчаны: малакроўе ў дзяцей, ракавыя захворванні ў дарослых. Не кажучы пра ўплыў цяжкіх металаў – свінцу, ртуці, цынку.

*— І адначасна ішло асушэнне балот, выпростванне рэчышчаў, рабаванне лясоў. Зыначваліся, бяднелі ландшафты. Разбураліся ўстойлівыя прыродныя асяродкі. Вобраз чарвяка ў яблыку – яскравая характарыстыка гаспадарчай дзейнасці чалавека. Знясільваўся, марнеў плод – зямля трацiла сілу і прыбабнасць. У Вас, як у антраполага і медыка, на гэты конт, відаць, свае асацыяцыі і назіранні?*

— Перш-наперш высновы. Тое, пра што Вы досыць вобразна нагадалі, мы, вучоныя, канстатуем па-свойму: разбураюцца аптымальныя для жыццядзейнасці і біялагічнай разнастайнасці біягеацэнозы і на гэтай “глебе” з`яўляюцца новыя экалагічна залежныя хваробы. Адаптыўна-прыстасавальныя магчымасці сучаснага беларуса дасягнулі парога напружанасці.

Што адбываецца? Паводле груп крыві, бялковых фракцый, фізіялагічных і біяхімічных прыкмет, род людскі даволі разнастайны. Гэтакі палімарфізм, інакш кажучы, чалавечая палітра дазваляе homo sapiens біялагічна прыстасоўвацца да зменлівага прыроднага наваколля. Аднак якія б не былі рэзервы і як бы яны не былі замацаваныя гістарычна, спадчынна – высільваць іх нельга. У папуляцыях чалавека да апошняга часу падтрымлівалася дынамічная раўнавага. Сёння ўжо інакшая сітуацыя, якая ставіць перад этнасам шмат пытанняў: куды мы ідзём і куды прыйдзем? Адказ ёсць. Яго няцяжка знайсці, калі спыніцца і азірнуцца. Калектыўныя паводзіны людзей, характар і тэмперамент чалавека нясуць у сабе гістарычна напрацаваныя этнічныя асаблівасці, засвоеныя досведам шматлікіх пакаленняў у канкрэтным культурна-гаспадарчым асяроддзі.

*— Вынікае, ідзём не туды... Відаць, тут да месца ўзгадаць і такое вострае слова як “экацыд”?*

— У пэўным сэнсе чалавек пайшоў вайной супраць сваіх адвечных асяродкаў, якія яго нарадзілі, затым спавівалі і нянчылі. І – супраць самога сябе. Бо эвалюцыйна ён быў сфарміраваны менавіта гэтай прыродай, гэтай раўнінай, гэтым балотам, гэтым лесам. І быў найлепшым чынам прыстасаваны да гэтых прыродных варункаў. З другога боку, лес, балота, раўніна былі найлепшым варыянтам прыродных асаблівасцяў на нашай тэрыторыі.

Калі я ўжываю ходкі тэрмін “экацыд” у дачыненні да Беларусі, я трымаю перш-наперш на ўвазе вось гэтую прыродазалежнасць чалавека. Мы літаральна падпарадкаваныя сілам і норавам прыроды, нас вякамі фарміравала яе мацярынская рука. Як даследчык скажу нават так: прырода ляпіла наша аблічча, замешвала нашу кроў. І ў адрозненне ад іншых біялагічных відаў чалавек не патрапіць у Чырвоную кнігу. Але выжывуць, несумненна, мацнейшыя. Зараз пачынаецца новы этап прыстасаванасці сучасных людзей да зменаў навакольнага асяроддзя. Нягледзячы на самыя жудасныя ўмовы – і фізічны, і хімічны, і біялагічны бруд – чалавек збіраецца выжыць: мы прыйшлі да натуральнага адбору. Медыцына ўжо не дамагаецца выжывання там, дзе гэта ёй не па сіле. Кропку ставіць прырода, лёс...

*Заканчэнне ў наступным нумары*



* *Аляксей Мікуліч (справа) сярод удзельнікаў міжнароднага экафоруму “Кіеў-95”.*
*Фота: Неруш-прэс*

**Мы прыродазалежныя. Падпарадкаваныя сілам і норавам прыроды. Нас вякамі фармавала яе мацярынская рука: ляпіла наша аблічча, замешвала нашу кроў.**

* *ад англьскага **alarm** — трывога, страх. Алярмізм — кірунак, плынь у навуцы, згодна з якой акцэнтуецца ўвага на катастрафічных наступствах уздзеяння чалавека на прыроду, абмежаванасці прыродных рэсурсаў, неабходнасці прыняцця засцерагальных захадаў з боку дзяржавы.*


SUMMARY

***Doctor of biology and anthropologist Aleksey Mikulich answers our reporter's questions. “Humanity is in no risk of ending up in the Red Books, but the strongest will survive”. This headline leads into the topic of natural selection in the human population.***

## Росквіт краіны — гэта не толькі крамы з таварам, але і прыгожыя чыстыя краявіды... Запрашаем да кампаставання!

*Нярэдка чуем: "пабытовыя дробязі", "пабытовае разуменне", "пабытовая псіхалогія" і шмат чаго яшчэ на "пабытовым узроўні". Дык вось. Што датычыць дробязяў, менавіта з іх і складаецца экалагічны лад жыцця (перагукваецца з цвярозым ладам, але адно і другое нам аднолькава патрэбна).*

*Вельмі прыкметная "дробязь" на дачы ці сялянскай гаспадарцы - збудаванне для нарыхтоўкі кампосту. Яго сустракаеш пакуль нячаста, не ўсюды, асабліва на вёсцы. Можа, таму так шмат арганічнага смеццяператвараецца ў хлам і трапляе на звалкі, як правіла, стыхійныя, дзікія, што бачым каля дарог, у лесе,— замест таго, каб ператварыцца ў чорны пажыўны гумус, якога чакае зямля.*



** "Я выкапаў (выкапала) у садзе кампаставую яму, і ўсе адыходы раслiннага паходжання ідуць туды. Я веру, што тое, што ўзята ў зямлі, павінна ёй і вярнуцца. І мой сад будзе шчодра даваць мне прадукты, неабходныя для жыцця", — так сказаць сёння могуць тысячы гаспадароў і гаспадынь Беларусі. Заўтра так скажуць сотні і сотні тысячаў.*

*Фота: Валерый Дранчук ("Неруш-прэс")*

## Адыходы таксама ёсць жаданыя і нежаданыя. Найлепш тыя, якія добра гніюць

Калі вы гаспадар дзялянкі альбо за гаспадара маеце сябра, знаёмага ці, тым больш, каго-небудзь з родных ці блізкіх, — парада для вас: як зрабіць на падворку "малое прадпрыемства" па вырабу кампосту (перагною).

Лепш такое "прадпрыемства" размясціць побач з хлеўчыкам, дзе трымаюць курэй ці іншую жыўнасць, але за 20-30 метраў ад пітное крыніцы..

На кампост ідзе розная непатрэбшчына: смецце, (у т.л. хатні змёт), так званыя нечыстоты, лісце, попел, бацвінне (лепш здробненае). Адным словам, усё, што гніе. Сабранае перасыпаюць торфам або зямлёй. Робяць гэта наступным чынам: слой выкідаў (10-15 см) і слой зямлі або торфу (10-15 см), зноў выкіды і зверху слой зямлі — і так дабіраюць вышыні 1- 1,5 метра. На кампост можна ліць і памыі. Добра, калі знойдзецца месца на два кампаставыя штабелі: пакуль адзін запаўняюць, другі "падыходзіць", "спее".

Для кампаставання часам выкладваюць бетонную пляцоўку з борцікамі на дзве палавінкі (кучкі). Калі штабель роўны з чалавекам, яго зверху накрываюць плёнкай, і каб не высах, паліваюць вадой.

Магчыма, хтосьці возьмецца за справу ў такім парадку. Спачатку капаюць яму на глыбіню 0,5 метра і шырыню І,5. Дно "высцілаюць" глінай, па кутках заганяюць слупкі і абшываюць іх дошкамі, шыферам і г.д. Атрымліваецца скрыня без дна вышынёю прыкладна 1,5 метра. Збудаванн часам абкопваюць канаўкай, каб кампаставых "сокі" не расцякаліся па ўсім участку, і маскіруюць павойнымі раслінамі.

Ёсць яшчэ адзін спосаб назапашвання арганічнага ўгнаення на сваёй сядзібе. З дошак ці жэрдзя робяць тры загародкі (клеткі), кожная прыкладна 1,5х2 м. Першы год запаўняюць адну з іх (тым жа парадкам, што апісаны вышэй). На другі год (звычайна вясной) з першай загародкі ўсё назапашанае перакідваюць у другую загародку, а першую зноў запаўняюць даверху. Трэці год: другую клетку апаражняюць на карысць трэцяй, а першую – на карысць другой. Нарэшце, ўсе тры загародкі поўныя. Гатовым лічыцца кампост з трэцяй загародкі, які "прайшоў" запланаваны трохгадовы цыкл. Далей касмпоставы канвеер будзе штогод папаўняць вашы градкі вітамінамі ўрадлівасці. Увогуле, поўным перыядам "паспявання" кампосту прынята лічыць 1-2 гады.

Кучы запаўняюцца так, каб сярэдзіна была з упадзінкай (карытцам), і добра паліваюцца. Калі да кучы выносіце нечыстоты (фекаліі), трэба тут жа прысыпаць іх зямлёй або торфам. Каб працэсы біялагічнага прагравання не замаруджваліся, на халодны час кампаставыя скрыні ўцяпляюць апалай лістотай, а ўзімку – снегам.

Такім чынам, з карысцю вырашаецца праблема пабытовагаспадарчага смецця, іншых адыходаў, а зямля тымчасам мае добрую падтрымку: абагачаецца і не заплывае рэшткамі чалавечай дзейнасці. Цяжэй з адыходамі, якія не гніюць (шкло, пластык, плёнка ды інш.) Але і тут шмат залежыць ад чалавека, ягонага выбару: што купляць і з якімі наступствамі? Трэба, відаць, як мага пазбягаць розных "гарадскіх" упаковак (пераважна імпартных), а больш схіляцца да паперы, кардону, шкляной тары, якую можна здаць або абмяняць.

SUMMARY

***The newspaper strongly recommends that readers should start composting natural waste from their yards and dachas. The article emphasises that a country's prosperity is not just having shops full of goods, but also villages and towns with beautiful clean surroundings.***

**актывісты "зялёнага" руху ў Нямеччыне прапануюць не "заганяць" аўтамабільную старызну ў бедныя краіны, а скарыстоўвацца сваімі "шкарлупінкамі" ў якасці кампаставых ямаў (на здымку).*

*Фота: з архіва "Неруш-прэс"*



### Ваза для... кампосту?

**М**аючы лецішча, дамок і сад, вядома ж, грэх не вырабляць свой кампост. На гэта не здольны хіба лянівы.

А вось каб у кватэры!? Тымчасам гэта зусім магчыма – скрыня для кампосту, скажам, на балконе. Або ахвяруйце на гэта крыху большы гаршчок для кветак (але без кветак). Гароднінныя рэшткі, скарыстаная гарбата, лушпіны і інш. перамешваюцца з зямлёй і прысыпаюцца. Стаіць, гніе і не пахне... А праз колькі месяцаў прыдасца на агародзе. Праўда, не на такім вялікім, што на дачы, а на тым, які на вашым падваконні альбо на балконе.

**К**ампаставанне адыходаў ёсць адным з простых спосабаў падтрымаць чысціню асяроддзя і дапамагчы навакольнай прыродзе.

Аднак, гэта не панацэя ад вялікай колькасці смеццезвалак, якія бачым у ваколіцах вёсак і гарадоў.

Адыходы не памяншаюцца, і праблема застаецца цяжкавырашальнаю ва ўсім свеце – як вынік эканамічнага прагрэсу і росту.

З пункту гледзішча экалогіі, лепш зусім не вырабляць адыходы са складанай хімічнай прыродай, чым мець пасля з імі справу.

Росквіт краіны – гэта не толькі крамы з таварам, але і прыгожыя чыстыя краявіды. Кампаставанне "маленькага" смецця хоць і не вырашае вялікай праблемы сучасных адыходаў, аднак да стану нашых краявідаў мае непасрэднае дачыненне.

Грыбы

## І папараць-кветка, і грыб... мухамор

**Каму** не пашанцуе ў купальскую ночку ўхапіць мігатлівую папараць-кветку, варта паспытаць шчасця ў пошуку... каласавікоў. Жаданыя сведчанні пра іх з'яўленне, часам улоўленыя краечкам вуха, прыемна хвалююць аматараў грыбных паляванняў. Тут і лісічкі, і падасінавікі, і сам шчыры грыб-баравік... Каласавікі — першая грыбная хваля, як кажуць, разведка, пасля якой чакай сапраўднага грыбнога сезону. Надоўга, да глыбокай восені.



І ўсё ж — перасцярога: будзьце пільныя ў лесе! Не шукайце грыбнога шчасця ў прыдарожных канавах, блізу смеццезвалак ці на іх месцах, у лесе, дзе адзначаліся радыяцыйныя выкіды. *Уласная інфармацыя.*

* *грыб-мухамор звычайна навідавоку. Да ягонай прысутнасці трэба ставіцца памяркоўна. Ён быццам падае знак: "Не спяшайся, грыбнік, пабач, прыглядзься, хавасцца недзе шчыры грыб-баравік — мой даўні сусед і спадарожнік". Але мухамор можа і дужа падмануць пачаткоўца. Ягонае падабенства да чырвонай сыраежкі прыносіла людзям бяду. Гэта бывае тады, калі з ягонай шапачкі дажджы змываюць белыя плямкі-барадаўкі.*

*Фота: Ігар Бышнёў (Бярэзінскі біясферны запаведнік).*






Здарэнні

## І дэльфіны не хочуць мірыцца з папіханнем сваіх правоў

**Больш** за сотню дэльфінаў, жыхароў Карыбскага Мора, спрабавалі выкінуцца на бераг у раёне выспы Тартуга. Магчыма, такім самаахвярным чынам гэтыя марскія жывёліны выказалі свой пратэст супраць надзвычай актыўнай тут чалавечай дзейнасці, якая згубна адбіваецца на стане прыроднага асяроддзя. Намаганні людзей па ўратаванні дэльфінаў ад самазабойства большасцю аказаліся марныя. Масавасць такога ўчынку вучоных тлумачаць сілай грамадскага інстынкту марскіх сысуноў. *Крыніца: газета "Таймс"*

Апакаліпсіс

## Насуперак афіцыйнай статыстыцы

**У Варшаве** адбыўся Міжнародны кангрэс "Свет пасля Чарнобыля", на якім выступілі вядомыя вучоныя з Беларусі. Дырэктар навукова-даследчага інстытута "Белрад" Васіль Несцярэнка давёў да ўдзельнікаў з дванаццаці краін свету, што дзяржава не здольная абараніць насельніцтва Беларусі ад забруджанага харчавання. Галоўная дозавая нагрузка трапляе разам з малаком, ляснымі ягадамі і грыбамі. Склалася катастрафічная сітуацыя, але дзяржава застаецца глухой да прапаноў вучоных, пасведчыў ён. Пацярпелыя раёны не забяспечаны сепаратарамі для ачысткі малака, не распачата вытворчасць прэпаратаў з яблычнага соку для вывядзення радыенуклідаў. Рэктар Гомельскага медінстытута на падставе сваіх даследванняў абверг афіцыйную статыстыку Міністэрства аховы здароўя і падкрэсліў, што стан дзяцей пагаршаецца. Медыкі канстатуюць надзвычайны рост анкалагічных і сардэчных захворванняў, аслабленне імунітэту, прадбачаць генетычныя змяненні. Удзельнікі форуму падкрэслілі, што праблема Чарнобыля ўжо ёсць праблемай правоў чалавека. *Крыніца: беларуская незалежная прэса.*

**"Піце на здароўе!"**

***– так*** *назваў свой малюнак мастак-сатырык. Назва з'едлівая, але справядлівая, а сам сюжэт, бадай, не падлягае якому-кольвек прадметнаму апазнаванню, бо ён да жудасці тыповы. Месцам, дзе адбываецца дасціпна падгледжаны "колазварот" чалавечага побыту, можа быць і Нёман. і Дзвіна, і Свіслач, і любая іншая рака ці рэчка Беларусі (абмяжуемся пакуль што межамі сваёй краіны). "Чытаючы" сюжэт з вялікім мноствам сюжэцікаў, не ведаеш: усміхацца ці плакаць, ці неадкладна збіраць ш эсце прат эст у..*

 

### Грамадой

## Ці хопіць пеленгатараў на ўсіх электравудзільшчыкаў Беларусі?

**Як вядома**, лета прыходзіць з рыбалкай і... праблемай рыбалоўнага браканьерства.

У пярэдадзень сёлетняга сезону прыйшла і добрая навіна з Інстытута фізічных праблемаў Белдзяржуніверсітэта: навукоўцы прыдумалі і распрацавалі ўзор пеленгатара для вызначэння рыбалоўных электрапрыстасаванняў саматужнай вытворчасці. Прылада здольная дзейнічаць у радыусе двух кіламетраў. Праз гукавы сігнал і іншыя паказанні вызначаецца дакладнае месцазнаходжанне злачынцы.

Якім будзе вынік тэхнічнай навінкі супраць злоснай грахоўнасці чалавека перад прыродай, пакажа гэтае лета.

Адказнасць за ўкараненне пеленгатара ў практыку ўскладзеная на камітэт рыбааховы пры Міністэрстве прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя. *Кантакт: аддзел рыбааховы, тэл. 223-07-27.*

### Квінт-цытата

## Да пытання аб тым, дзеля чаго ўлады спрабуюць зрабіць ахоўныя тэрыторыі прыбытковаю галіною

**"Сёння** пад кантролем Кіраўніцтва справамі прэзідэнта (КСП) знаходзяцца запаведнік (Бярэзінскі біясферны) і тры нацыянальныя паркі ("Белавежская пушча", "Прыпяцкі", "Браслаўскія азёры"), а таксама 7 лесапаляўнічых гаспадарак. Няма нічога дзіўнага, што менавіта гэтыя аб`екты апынуліся пад увагай сп. Ціцянкова: як вядома, КСП ператварнулася ў самую магутную вытворчагандлёвую структуру дзякуючы таму. што пад сваім дахам сабрала самыя рэнтабельныя і хуткаакупныя галіны."

**"... наколькі** добратворным будзе ператварэнне гэтых аб`ектаў — пад выглядам дамагання іхняй самаакупнасці і самафінансавання – у сапраўдныя гаспадарчыя пудзішчы? На гэтае пытанне сёння немагчыма даць адказ. Бо нягледзячы на відавочнае павелічэнне прыбытковасці нацыянальных паркаў, грошай на ўтрыманне патрэбнай колькасці навукова-даследніцкіх кадраў як бракавала, так і бракуе. Іхнія штаты ўвесь час скарачаюцца. Дырэктар Інстытута заалогіі НАН Міхаіл Пікулік вымушаны канстатаваць, што *з перадачай нацыянальных паркаў ва ўласнасць КСП згортваецца навуковая дзейнасць, арыентаваная на вывучэнне і захаванне ўнікальнага біяцэноза"* (вылучана намі - рэд.)

**"На думку** прадстаўнікоў Міністэрства прыродных рэсурсаў, запаведнікі, дзе неабачліва запачаткоўваюцца турысцкія маршруты, практыкуецца платнае паляванне для замежнікаў і бясплатнае для выбраных, паступова губляюць сваё аблічча.

**"З-за таго**, што ўсё канцэнтруецца ў адных руках (прычым, не ў тых, у якіх трэба), на тэрыторыі нацпаркаў пераважае гаспадарчая дзейнасць з актыўным выкарыстаннем прыродных рэсурсаў", — адзначыў спецыяліст міністэрства Здзіслаў Мураўёў."

**"Драўніна**, вырабы з яе – адна з нешматлікіх экспартных пазіцый, ад якой у нашу краіну паступае валюта (200-300 млн. у год). І сёння вырашаецца пытанне аб тым, куды пойдуць гэтыя сродкі — у дзяржаўны бюджэт ці ў пазабюджэтны фонд пры прэзідэнце". *Крыніца: "Белорусская деловая газета", 23 красавіка 1998.*

### Не!

## Чым глытаць чорны дым— лепш сядзець дома, без купальскага вогнішча

**Варта** жалю, але бывае і так. За тыдзень да Купалля хлопцы сцягваюць на месца вогнішча паношаныя гумавыя покрыўкі і нават цэлыя колы ад рознай тэхнікі, і ў чароўны купальскі вечар "робяць вялікі дым". Дым сапраўды вялікі і чорны (як на здымку). І наступствы яго ў



той жа "каляровай" гаме. Дрэвы, трава, агароды брыняюць сажай, псуюцца пашы, медазборы, вада. Не кажучы пра тое, што атрутным паветрам дыхаюць дарослыя і дзеці, якія прыйшлі на свята. Але якое ж гэта свята і ці патрэбна яно такое?

### Мы і свет

## Дваццаць пяць мінут нарвежскага лета

**Эталонныя** зімы Нарвегіі добра вядомыя ў свеце. А вось якое лета? Пра гэта я спытаў у госці Беларусі,



школьнай выкладчыцы з Нарвегіі спадарыні Сванхілд Вальстадсве, калі ў Мінску якраз свяціла сонца і нават стаяла спякота.

"*Калі як*, — з усмешкай адказала госця. — *Летась нарвежскае лета доўжылася аж дваццаць пяць мінут. Але гэта на поўначы краіны. Там не перасыхала ад дажджоў і было вельмі халадна. Праўда,на поўдні, дзе Осла, стаяла цяплейшае надвор`е і здараліся гарачыя дні. Але жыхары Нарвегіі – народ цярплівы і добра прыстасаваны. Некаторыя хвалілі і тое кароценькае лета. Або жартам, або ўсур`ёз.*

Госця з Нарвегіі распавяла таксама пра наступствы чарнобыльскай навалы, якія не прамінулі яе радзіму, прынеслі немалыя эканамічныя страты, адбіліся на экалогіі і здароўі нарвежцаў.

Пра Беларусь, зазначыла Сванхілд, у краіне снягоў і фіёрдаў ведаюць мала. Улады іншых краін рупяцца значна больш, каб зрабіць сваю краіну вядомай, нават славутай. Патэнцыял Беларусі, падкрэсліла Сванхілд, ніколькі не бяднейшы, каб заставацца ў цяні. Нават калі гарачае лета. *Уласная інфармацыя.*

* *Нарвегія -- краіна маляўнічых ландшафтаў і разнастайных турыстычных маршрутаў.*

### Твой востраў

## Здароўя Вам і Вашаму дрэву

**Хто** не выпісваў нашу газету і не прачытаў цікавых падрабязных артыкулаў біёлага Ул. Галубкова пра энергастасункі паміж чалавекам і дрэвамі, раім скарыстацца сцісламі звесткамі.

Дрэвы, якія падсілкоўваюць энергіяй (паводле магутнасці, ад большага да меншага): *дуб, хваёвыя пароды, ліпа, бяроза, клён, каштан, акацыя, рабіна.*

Дрэвы, якія забіраюць лішак энергіі (што выяўляецца ў гіпертаніі, спазмах, болі, раздражнёнасці і інш.): *таполя, асіна, елка, вольха, чаромха, павойныя расліны.*

Варта памятаць, што дуб – самы дужы і магутны донар – актыўны ве-чарам і ўначы з 21 да 3 гадзін. А з 15 да 17 гадзін у яго ўвогуле "ціхі час".

Падчас сеансаў заўсёды ведайце меру, дазіруйце стасункі як з адным, і так і з другімі партнёрамі.

Дарэчы, знайсці сваё дрэва можна наступным чынам. Вазьміце кавалачак фальгі (прыдасца і з-пад шакалада), патрыце яго рукой, падыдзіце да дрэва: калі фальга тулііцца да камля – дрэва вашае, калі не – шукайце менавіта сваё. Нават цурбанчык, лёстачка, галінка вашага дрэва не будзе лішняй у вашым доме. Да іх заўсёды можна прыкласціся: ступнёю, далоняй ці вухам... Глядзіш, паляпшае настрой, прыбудзе бадзёрасці і сілы.



У рэшце рэшт скарыстаемся яшчэ адным добрым правілам: будзем шанаваць і берагчы наваколле, зычліва і дбайна даглядаць дрэвы, памятаць, што іхні стан і настрой здольныя дапамагаць нам. *Ул. інфармацыя.*

### Прысмакі

## Медавуха "Пачастунак"

**Мёд** разам з сотамі развесці ахалоджанай гатаванай вадою (найлепш крынічнай), наліць у невялікую драўляную бочку.

У цёплай вадзе развесці дрожджы, выліць у бочку з разведзеным мёдам і добра перамяшаць.

На 6-8 дзён паставіць ахаладзіцца.

Вам спатрэбіцца: 5 літраў вады, 300 грамаў мёду і 5 грамаў дражджэй.

**Загадзя ўдзячныя!**

*Выхад газеты прыпаў на момант сканчэння чарговай падпіскі. Дзякуй усім, хто падтрымаў нас сваім выбарам, прыхільнасцю да зялёных каштоўнасцяў, беларускай мовы ды незалежнага друку.* ***Рэдакцыйная рада.***

### SUMMARY

**The Belaya Vezha ("White Tower") section gives various information on ecological and other topics.**



 

# КАЛЯНДАР CALENDAR

*Старажытнае **Купалле** - свята сонца, агню, божышчаў плоднасці ды росквіту зямлі - прыйшло з незапомных часоў і адзначаецца сёння на Беларусі ў найбольш захаваных абрадавых формах*

** "... слыла Купалка, цяплом, дабром"*
**прымі, бацька-Нёман, вянкі на шчасце, на лепшую долю беларусаў...*



# Ноч малая ды Купальная!



*Фота: Васіль Зянько (г.Стоўбцы)*

## *Святаянскія зёлкі*

Наконадні купальскае ночы і свята Івана Купалы (свята Яна) жанчыны і дзяўчаты выпраўляліся на ўлонкі ваколіцаў збіраць лугавыя, лясныя ды польныя зёлкі. Гэты час быў надзвычай спрыяльны: трава і кветкі сама паспявалі, брыняючы гаючымі ды жыццядайнымі сіламі. Збіралі на лекі, асвячалі ў царкве і хавалі затым у сухіх мяцёлачках дзе-небудзь у хаце, скарыстоўваючыся, калі была патрэба -- каб памагло, суцішыла боль, прагнала немач. Лекі прызначаліся не толькі сямейнікам, але і жыўнасці на гаспадарцы. Было сярод раслінаў і "прываротнае зелле": з яго дапамогай дзяўчаты прыварожвалі да сябе жаніхоў. Кветкі ўплidалі ў вянок, імі аздаблялі валасы і вопратку. За рытуальныя мелі купалкі (святаянскія зёлкі), руту, браткі, багатку, валошку, папараць, лопух, рамонак, палын, ружу ды інш.

Свята чакалі і верылі, што ў купальскую ноч дрэвы перамаўляюцца паміж сабою і нават зрушваюцца з месца на месца, а папараці ў лесе выбаўляюць з зялёных далоняў кветачку, што свеціцца незвычайным святлом: толькі пры гэтым святле шчасліваму чалавеку адчыняюцца патаемныя склепы з дабром.

## *Калі прамаўляем "Купала"...*

Перш чым выпраўляцца ў лес па таямнічую папараць-кветку, паспрабуем адчыніць слоўны куфэрак ды знайсці там паходжанне слоў "Купалле", "Купала".

Самая распаўсюджаная версія паказвае на вогнішча: ад старажытнаславянскага слова "купа" — "купець" у значэнні "гарэць". Менавіта вогнішча-касцёр было ў самым цэнтры купальскага свята (*"Не дзеўка агонь раскладала, то-то-то! Сам бог агонь раскладаў, то-то-то!"*). Часта пасярэдзіне агню ставілі жэрдку з пукам саломы ці колам з падводы. Праз вогнішча-купала ладзілі скокі (часта ў пары хлопец з дзяўчынаю), каб ачысціцца ды засцерагчыся ад злыбедаў, аберагчыся на будучыню. Калі касцёр гарэў хораша, чыста, шугаючы – гэта, няйначай, паказвала на каласістае, шчодрае жыта, на добры ўраджай. Часам дзяўчаты кідалі ў полымя кудзелю, каб зарадзіў лён.

Да запальвання вогнішча ішла падрыхтоўка. Зносілі дровы, сякую-такую старызну, сухое галлё. Усё гэта старанна складвалі. Падпальвалі ж купала дзяўчаты, якія першымі з'яўляліся на месца гуляння. Ноч ля кастра не абыходзілася без вячэры, вянкоў, карагодаў, купальскіх песень, варажбы.

Другі варыянт паходжання звязаны са словам купацца. Казалі, што ў гэты вечар, дагараючы на захадзе, а затым, праз ноч на досвітку, — і само сонца купаецца. Тым самым зазначаўся першнаперш яго пераліўны бляск, непаўторная чысціня. Выкупаца, ачысціцца разам з сонцам і месяцам прагла і чалавечая душа. Ды не адно ў азёрнай і рачной вадзе, але ў росных балеях у лузе або каля жыта ці ў жыце. Паводле падання, вада ў гэтую ноч валодае магутнай гаючай сілай, робіць людзей прыгожымі. Гэтыя ж якасці прыпісвалі і ранішняй расе, якою ўмываліся (24 чэрвеня або 7 ліпеня). Почасту дзяўчаты беглі ў патаемныя начныя куточкі за вёску ці хутар, каб пакачацца ў траве. Лічылі, што ўмытае расой цела абавязкова рабілася яшчэ больш чыстым, здаровым і вабным. Ушаноўваліся таксама крыніцы і студні, мясціны, што паілі і гаілі вадой.

Нарэшце, у слоўным куфэрку знаходзім лацінскае "cupio" – ярыцца, ўскіпаць. Гэта і ёсць трэцяя версія паходжання слова "купалле", якая вяртае нас да двух папярэдніх: Купалле – як свята агню, зялёнае моцы, буяння прыроды, калі ўсё кіпіць і ярыцца.

Як сонца купальскае гарыцькупаецца ў пералівах ды бляcках, так і слова "купала" на Беларусі свеціцца ў мностве варыянтаў-адценняў: Купала, Купало, Купайла, Купалейка, Купалле, Купаллё, Купалка, Купалачка, Купал-ночка, Купальначка, Купаленка, Купалеш...



*Неруш-прэс*

Слова *"фужэр"*, запазычанае з французскай мовы і часта ўжыванае замест беларуска-нямецкага *келіх*, азначае, між іншым, папараць. Падабенства шукаць не трэба – яно відавочнае, ці не так?

** адзін з самых высокіх і рэдкіх папарацяў — страусапёр. Ёсць меркаванне, што менавіта гэты від расліны стаў правобразам таямнічае папараць-кветкі.*

## *Ці зацвітае папараць?*

На гэтае пытанне Вольга Шарай, навуковы супрацоўнік нацыянальнага парка "Прыпяцкі" дае катэгарычна адмоўны адказ, хоць шчыра прызнаецца, што ў купальскую ноч і сама не выключае магчымасці сустрэць гэты цуд. Навуковы досвед, так бы мовіць, адно, а духоўны, правераны традыцыяй пакаленняў — зусім іншае.

На тэрыторыі парка налічваецца дзесяць відаў гэтай расліны шасці сямействаў. Каторыя з іх мала вядомыя і апроч спецыялістаў наўрад ці каму прыкметныя. Што, часам, і не дзіўна, бо сальвінія вадаплаўная, напрыклад, паспела нават патрапіць на старонкі Чырвонай кнігі — як рэдкі від, які ўжо, апроч "Прыпяцкага, мала дзе сустракаецца ў Беларусі. А яшчэ параўнальна нядаўна сальвінію можна было сустрэць у Белавежскай пушчы, ваколіцах Гродна, Наваградка, Слоніма, Мінска, Касцюковічаў. Гэтая "Папараць-кветка" любіць стаячую або ціхаплаўную ваду поймаў і лясных азярынаў, старыцаў, рачных затокаў.

Адным словам, расліна з катэгорыі таямнічых, у якой жыве той самы вагеньчык купальскай начы...

Большасць папарацяў, працягвае Вольга Шарай, сустракаюцца досыць шырока і добра вядомыя кожнаму. Растуць у сасняках і ельніках, беразняках і дубровах, ліпняках і кляноўніках, грабняках і асінніках, альшаніках і ясенніках. Ёсць тыпы лесу, дзе папараці ўтвараюць суцэльны покрыў і асабліва маляўнічыя тады, калі разам з дрэвамі пачынаюць "цвісці" асеннімі барвамі. Можа, і ў такі час трэба шукаць шчасця? Шчасця бачыць хараство і цешыцца непаўторнасцю роднай прыроды.

***Уладзя Ляская***


SUMMARY

***The night of Ivan Kupala, or Kupalle, is an ancient folk holiday in Belarus. People light fires on the river banks, throw wreaths into the water, and set off in search of the fabulous fernflower.***



БЕЛАВЕЖСКАЯ ПУШЧА

*Заснавальнік і рэдактар Валерый Дранчук*

* прыродалюбная асветна-публіцыстычная беларуская газета
* год выдання чацвёрты, 1998 №2 /11/
* пасведчанне аб рэгістрацыі №125 ад 27.06.96
* наклад 3000 асобнікаў, кошт дамоўны
* пры передруку спасылка на газету абавязковая

Афармленне, макет: *Валерый Дранчук*
Карэктура, вёрстка: *Уладзя Ляская*
Summary: *Mark Bence (with Sveta and Sasha Godina)*

Адрас для допісаў: 220088 Мінск, Іванаўская, 38-16. Тэл.236-50-76, факс 220-23-53

Аўтары маюць права вольна выказваць свае меркаванні і нясуць адказнасць за дакладнасць пададзеных звестак.

Газета надрукавана ў друкарні "Мэджык" (Мінск, вул.В.Харужай, 13)
Падпісана ў друк 21.06.98 Замова №755

Кошт свабодны. У шапіках "Белсаюздруку" 7000 рублёў

**"BIELAVIEZHSKAYA PUSHCHA" Belarusan Nature-Loving Newspaper. Motto: With Love To Lap. Published at the iniciative of the Information Green Agency "NERUSH-PRES" Contact: 220088, Miensk, Ivanauskaya st., 38-16, Phone (375 17) 236-50-76**